Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

11 студзеня 2019 года №2 (1237)

18+

**КАЛЯНДАР КАНФЕСІЙ на 2019 год**

Галоўныя ўрачыстасці і святы праваслаўнай, каталіцкай, іўдзейскай, мусульманскай і будыйскай канфесій

старонка 20





**«Выдаў пяць альбомаў і дзве кнігі – і перастаў баяцца смерці»**

старонка 5

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Асоба года-2018 маладзечанец Віталь Качаткоў атрымаў узнагароду «РГ»

ISSN 1991–7155

Адсканулуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

**Лыжы, цюбінгі, канькі: што трэба ведаць, каб зімовы адпачынак не скончыўся трагедыяй**

старонка 21

## Аддзел ідэалагічнай работы Маладзечанскага райвыканкама – без начальніка


Фота ctv.by.

Соф'я Філістовіч.

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказала начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама **Таццяна Шафаловіч**.

Ад трэцяга студзеня **Соф'я Філістовіч** працуе на пасадзе першага намесніка галоўнага ўпраўлення па адукацыі Мінаблвыканкама.

Хто стане новым начальнікам аддзела, на момант падрыхтоўкі газеты ў друк, было невядома. Абавязкі Соф'і Філістовіч выконвае **Алена Сакалоўская**.

Нагадаем, што Соф'я Філістовіч узначальвала аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі ад сакавіка 2017 года.

Яна нарадзілася ў Маладзечне. У 1998 годзе скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 2014 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце РБ па спецыяльнасці дзяржаўнае кіраванне сацыяльнай сферай.

Працавала намеснікам начальніка аддзела адукацыі ад 2012-га да 2017 года. Да гэтага, ад 2010-га да 2012 года, яна была начальнікам аддзела дашкольнай, агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У валожынскіх выратавальнікаў – новы начальнік


Фота з сайта Валожынскага райвыканкама.

Аляксандр Сядой.

ВАЛОЖЫН

Ад 6 снежня начальнікам Валожынскага РАНС працуе маёр унутранай службы **Аляксандр Сядой**, паведамляюць у Валожынскім райвыканкаме.

Ён нарадзіўся ў 1984 годзе ў Валожыне. У 2006 скончыў камандна-інжынерны інстытут МНС па спецыяльнасці «Папярэджанне і ліквідацыя надзвычайных здарэнняў. Кіраванне абаронай ад надзвычайных сітуацый».

Працу пачынаў з пасады інжынера інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду ў Валожынскім РАНС. Ад 2009 года быў намеснікам начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадрах.

**Паводле сайта Валожынскага райвыканкама.**

## Раман Гаварко больш не дырэктар маладзечанскага аўтапарка

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведамілі ў аддзеле кадраў аўтапарка.

Цяпер абавязкі дырэктара выконвае намеснік дырэктара па пасажырскіх перавозках **Віктар Руткоўскі**. Хто ўзначаліць аўтапарк, пакуль невядома.

2 студзеня працоўны дагавор з Раманам Гаварко скасавалі па ўзгадненні бакоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Астраўцы – новы намеснік старшыні райвыканкама


Фота з сайта Астравецкага райвыканкама.

Іван Карніла.

АСТРАВЕЦ

Першым намеснікам старшыні райвыканкама, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання ад 3 студзеня прызначылі Івана Карнілу.

Іван Мар'янавіч нарадзіўся 23 снежня 1974 года ў вёсцы Вуглы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут па спецыяльнасці «заатэхнія».

Пачынаў працаваць у пасёлку Астрына Шчучынскага раёна. У 1998 годзе працаваў заатэхнікам, у 1999 годзе быў прызначаны галоўным заатэхнікам. Ад 2013 – галоўны заатэхнік ААТ «АграГЖС» Шчучынскага раёна.

**Паводле сайта Астравецкага райвыканкама.**


Фота tiidaodn.com.

Людзі з інваліднасцю з Вілейшчыны вельмі б хацелі, каб спецыяльны аўтобус для іх хадзіў раз на тыдзень.

# Ці з'явіцца аўтобус для людзей з інваліднасцю

**Людзі з інваліднасцю, што жывуць у Ілы і навакольных вёсках, вось ужо некалькі месяцаў дабіваюцца, каб для іх з'явіўся спецыяльны аўтобус, на якім можна было б з'ездзіць у Вілейку.**

ВІЛЕЙКА

Ініцыятарам выступіў чалавек на вазку з Ілы **Віктар Філістовіч**. Праз «Рэгіянальную газету» мужчына звярнуўся да жыхароў Ілы і навакольных вёсак з пытаннем, каму патрэбны такі аўтобус.

> Адгукнулася шмат. Аўтобус, абсталяваны для людзей з інваліднасцю, на якім можна было б з'ездзіць у Вілейку, патрэбны ільянцам, а таксама жыхарам суседніх вёсак: Лукаўца, Карытніцы, Мацькаўцаў, Карпавічаў.

### Адказ Вілейскага райвыканкама заяўнікаў не задавальняе

З дапамогай юрыстаў Офіса па правах людзей з інваліднасцю Віктар напісаў зварот у Вілейскі райвыканкам. Днямі атрымаў адказ: аўтобус гатовы выдзеліць, але толькі раз на месяц па маршруце «Вілейка-Забалацце». Такі адказ не задавальняе людзей.

– Гэта паездку ў магазін можна запланаваць раз на месяц, – лічыць Віктар. – А ў паліклініку ці іншыя ўстановы не асабліва запалануеш.

> Неяк сутыкнуўся з тым, што трэба было ў ДАІ афарміць дакументы. Хто ж мяне будзе там месяц чакаць? Трэба, каб аўтобус быў хаця б раз на тыдзень.

### Райвыканкам: спецыяльны аўтобус ёсць. Гатовы выдзеліць раз на месяц

У Вілейскім райвыканкаме распавялі, што над зваротам Віктара Філістовіча працавалі шматлікія службы райвыканкама і вілейскі аўтапарк.

У межах Дзяржаўнай праграмы па стварэнні безбар'ернага асяроддзя аўтапарк набыў спецыяльны аўтобус з нізкай падлогай. Але пусціць такі аўтобус могуць раз на месяц, пра што і напісалі ў афіцыйным адказе Віктару Філістовічу.

### Юрыст: такім адказам парушаюць Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю

Мы звярнуліся ў Офіс па правах людзей з інваліднасцю з просьбай пракаментаваць сітуацыю. На нашы пытанні адказаў юрыст **Алег Граблеўскі:**

– Даючы аўтобус раз на месяц, дзяржава парушае Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю. А менавіта артыкул 9 і артыкул 28. У дзявятым артыкуле гаворыцца пра тое, што дзяржава павінна забяспечыць даступнасць людзей з інваліднасцю да ўсіх аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры. Наяўнасць спецыяльнага транспарту тут таксама маецца на ўвазе.

> Артыкул 28 – пра тое, што дзяржава павінна забяспечыць належны ўзровень жыцця чалавеку з інваліднасцю і ўвесь час імкнуцца павысіць гэты ўзровень.

Па словах Алега, падобная праблема не толькі ў Віктара. Такога транспарту для сябе дабіваецца невідушчы чалавек з Іўя.

**А летась у Офіс па правах людзей з інваліднасцю звярталіся бацькі з Мінска, каб арганізаваць падвоз дзяцей з інваліднасцю да школы і назад. Пытанне вырашылі станоўча. Такі аўтобус цяпер ёсць, кажа Алег.**

– Атрымліваючы адмовы або адказы, што аўтобус выдзяляюць раз на месяц, чалавек з інваліднасцю перастае думаць пра тое, што клопат пра яго – абавязак дзяржавы. Не ведаю, наколькі хопіць сіл у Віктара Філістовіча ісці да канца. Але вынік тут залежыць менавіта ад яго настойлівасці, – падсумаваў Алег.

Віктар кажа, што спыняцца не збіраецца і ўжо накіраваў сваю просьбу дэпутату.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*



Фота Polsha24.

Часам стрыманы дызайн – самы актуальны, даўгавечны і стыльны.

# Чаму патрыманыя кватэры прадаюць даражэй за новыя?

**У горадзе сонца прапануюць вельмі розныя плошчы і цэны за іх. Чаму цана за адзін і той жа квадрат можа так моцна вагацца, чытайце далей.**

МАЛАДЗЕЧНА

Шасціпакаёвы дом агульнай плошчай 150 квадратных метраў прапануюць за 138 тысяч долараў у эквіваленце – гэта па 920 долараў за квадрат. Новы гаспадар можа атрымаць цалкам мэбляваную плошчу з дзіцячымі, кацельняй, вялікім ванным пакоем. Двор з дагледжаным газонам, гараж на два аўтамабілі і вальер для сабакі.

Аб'яву аб продажы размясцілі паўгода таму, але дом яшчэ не прадалі – ён размешчаны на ўскрайку райцэнтра, недалёка ад Ушы.

**Аднапакаёвыя кватэры былыя гаспадары прадаюць за 500-600 долараў за квадрат.**

Адзін з самых танных варыянтаў – кватэра на 27 квадратаў у Заліненым раёне. Ёсць склеп і хлеўчык. Размясцілі аб'яву летам. Каля дзіцячай палiклінікі прапануюць аднапакаёўку на 38 квадратаў на пятым паверсе. Дом пабудаваны ў 1985 годзе. За квадрат просяць 605 долараў.

## Цана рамонту

Аднапакаёўку па вуліцы Валынца агульнай плошчай 31 квадратны метр прапануюць за 765 долараў у доме 1961 года.

Адна з самых дарагіх прапаноў – кватэра па Вялікім Гасцінцы на 44,2 квадрата. Цагляны дом 2010 года пабудовы мае сістэму відэаназірання, зашклёную лоджыю. Просяць 814 рублёў за квадрат. Кватэра цалкам мэбляваная.

Гаспадары, калі рабілі рамонт, патрапілі ў пастку моды. Вострамодныя сцінаЛі, ці шкляныя панэлі на кухні са стракатымі сакавітымі карцінкамі былі на піку папулярнасці пару год таму. Звычайна тое, што было ў модным топе, вельмі хутка старэе і становіцца прыкметай не лепшага густу. Такі лёс напаткаў складаныя канструкцыі на столі, аркі ў праёмах, фоташпалеры, роспісы на шкляных ці люстраных дзверцах шафаў і сцінаЛі з яркімі карцінкамі.

Другая пастка, якая чакае тых, хто абірае модныя рашэнні пры рамонце, – цана. Калі матэрыял ці прадмет папулярны, ён даражэйшы за стандартныя рашэнні. Купляць кватэру з аддзелкай зручна. Можна з камфортам карыстацца ўсімі магчымасцямі новага жылля. Тым больш абставіць усё адразу, ды яшчэ пасля куплі кватэры, мала хто пацягне.

Але трэба разумець, што рамонт з моднымі рашэннямі вымагае значна завышаць цану. Вы атрымаеце аддзелку, якую, хутчэй за ўсё, захочаце перарабіць.

## За колькі прадаюць новую

Параўнаем дарагую кватэру, абстаўленую модна, з навабудоўляй. Як і варыянт вышэй, кватэры ў новапабудаваным дзевяціпавярховіку ад фірмы «ЧысцьБау» размешчаныя ў 6-м мікрараёне. У доме былі 2-х і 3-пакаёвыя кватэры, але іх адразу раскупілі. Засталіся толькі тры аднапакаёўкі – на 5, 6 і 8 паверхах.

**Дом цагляна-блочны, размешчаны недалёка ад ГЦ «Модуль» і 14-й школы.**

Па квадратах планіроўкі крыху адрозніваюцца – ад 44 квадратаў да 45,2. Засталіся толькі тры такія кватэры. Сумешчаны санвузел, ёсць балкон. Падключаная газавая пліта і ўсталяваны унітаз. Аднак аддзелкай забудоўшчык не займаўся. Яна павысіць цану, а гаспадары ўсё роўна захочуць зрабіць навенькую кватэру пад сябе.

**Тут за квадрат просяць 660 долараў.**

Такім чынам, новая кватэра без аддзелкі плошчай 45,2 квадратнага метра абыдзецца ў 29 832 долары. Кватэра з дарагой аддзелкай у доме, які старэйшы на восем год, плошчай 44,2 квадрата каштуе 36 тысяч долараў.

Ці гатовы новы гаспадар плаціць 6 168 рублёў за аддзелку, кожны выбірае сам. Калі вы гатовыя плаціць за яе, то ўпэўніцеся, што яна вам па-сапраўднаму падабаецца.

**Эмілія ХВОЯ.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**994** рублі – памер намінальнай налічанай зарплаты работнікаў Беларусі ў лістападзе 2018 года.



**Паводле Нацстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.01 | 10.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1701 | **2.1569** |
| Еўра | 2.4865 | **2.4718** |
| Злоты, 10 | 5.7701 | **5.7507** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1176 | **3.2166** |
| Грыўня, 100 | 7.8315 | **7.6744** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **2.01** | **9.01** |
| Еўра | 2.4630/2.4990 | **2.4600/2.4780** |
| Долар ЗША | 2.1530/2.1790 | **2.1530/2.1700** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 2.01 | 9.01 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | – | **4,10** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | – | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | – | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | – | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | – | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | – | **1,80** |
| Алей, 1 л | – | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | – | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | – | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | – | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | – | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,05** |
| Агуркі, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Бульба, 1 кг | – | **–** |
| Буракі, 1 кг | – | **–** |
| Капуста, 1 кг | – | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **–** |
| Морква, 1 кг | – | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | – | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 8,90 | **5,50** |
| Ананас, 1 кг | 8,00 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | – | **–** |
| Вінаград, 1 кг | – | **3,20** |
| Гранат, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | – | **–** |
| Лімоны, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Хурма, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | – | **25,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | – | **–** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Згарэла лазня з мансардай

МАЛАДЗЕЧНА

Пра пажар выратавальнікам паведамілі ўвечары 2 студзеня.

Гарэла лазня з мансардай у вёсцы Кучкі Маркаўскага сельсавета. На пажар прыехала пяць машын.

Аднапавярховая драўляная лазня з мансардай памерам 8х8 метраў цалкам згарэла.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчымай прычынай магло быць парушэнне правілаў мантажу печы, распавяла інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

**МНС нагадвае:** штогод у зімовы час павялічваецца колькасць бытавых пажараў у жылых дамах, прычынамі якіх, часцей, з'яўляюцца парушэнні правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога ацяплення, а таксама звычайная бестурботнасць. Менавіта таму так важна яшчэ раз нагадаць, што пажар можна прадухіліць, паклапаціўшыся загадзя аб выкананні простых патрабаванняў:

• печы і коміны неабходна прачысціць, адрамантаваць і пабяліць, заладзіць расколіны. Не трэба забываць і пра патаўшчэнне сценак печы;

• нельга прымяняць для распальвання печаў гаручыя і лёгкаўзгаральныя вадкасці;

• печы і коміны павінны мець устаноўленыя нормамі супрацьпажарныя адступкі і раздзелкі, гэта значыць, адлегласць ад унутранай паверхні коміна да гаручых элементаў будынка, якая павінна быць выкладзеная з вогнетрывалай цэглы. Коміны выкладаюць з глінянай цэглы таўшчынёй не менш за 12 сантыметраў. Паветраны прамежак паміж печчу і гаручымі сценамі павінны быць 20-50 сантыметраў у залежнасці ад абароненасці гаручай сцяны, таўшчыні сценкі печы, тыпу адступкі;

• на драўлянай падлозе перад топкай неабходна прыбіць металічны ліст памерам не менш як 50 на 70 сантыметраў;

• каб не дапускаць перапалу печы, рэкамендуецца паліць яе два-тры разы ў дзень і не больш чым па паўтары гадзіны;

• за тры гадзіны да таго, як пайсці спаць, трэба перастаць паліць печ. Попел, які выграбаюць з печы, трэба заліць вадой і аднесці ў спецыяльнае бяспечнае месца. Трэба перыядычна прачышчаць комін ад сажы.

Не сушыце на печы рэчы і сырыя дровы і сачыце за тым, каб мэбля, фіранкі знаходзіліся не менш чым за паўметра ад печы. Ні ў якім выпадку нельга распальваць печ дровамі, якія не змяшчаюцца ў топку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі ля Ілы загінуў прадпрымальнік з Мядзельшчыны

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Смяротная аварыя здарылася 7 студзеня каля 17:00.

Сутыкнуліся аўтамабілі «Шкода» і «Сітраэн».

Жыхар Людвінова, што ехаў на «Сітраэне», выехаў на сустрэчную паласу, бо на дарогу выскачыў лось. Пасля «Сітраэн» сутыкнуўся са «Шкодай».

«Шкодай» кіраваў 47-гадовы жыхар вёскі Абрамы, што на Мядзельшчыне, паведамілі ў Вілейскім РАУС. Ад атрыманых траўмаў кіроўца «Шкоды» загінуў.

Як стала вядома, загінулы – вядомы бізнесмен з Мядзельшчыны **Яўген Новасялецкі**. Ён быў стваральнікам этнічнай вёскі «Наносы-Навакселле», што месціцца на беразе Нарачы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мужчына скраў у краме гарэлку, шакаладку, цыгарэты і запальнічку

МАЛАДЗЕЧНА

Восьмага студзеня ўвечары ў адной з прадуктовых крамаў Маладзечна спрацавала кнопка трывожнай сігналізацыі.

Міліцыянеры выехалі на месца. Апытаўшы сведкаў, яны высветлілі, што каля 21:15 невядомы мужчына адкрыта скраў з прылаўка тры бутэлькі гарэлкі, пачак цыгарэт, запальнічку і шакаладку. Страты склалі больш за 25 рублёў.

Асобу падазраванага ўстанавілі. Ім аказаўся 35-гадовы мужчына без пэўнага месца жыхарства. Яго затрымалі ў двары дома №56 па вуліцы Замкавай.

Узбуджілі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж». Фігуранту пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На праектаванай аўтадарозе ў Астраўцы гарэў грузавік

АСТРАВЕЦ

Пра пажар паведамілі каля гадзіны дня 6 студзеня.

Гарэў грузавы аўтамабіль на праектаваным участку дарогі ў Астраўцы. Агонь пашкодзіў маторны адсек і кабіны.

Мяркуюць, што пажар здарыўся з-за няспраўнасці ў маторным адсеку.

**Паводле сайта МНС.**



Так выглядаў пакой, у якім загінула жанчына.

Фота забяспечана Валянцінай СОПАТ.

# Сын знайшоў труп маці ў абгарэлай кватэры

## Пра пажар у ГРАНС ніхто не паведаміў

МАЛАДЗЕЧНА

**Пятага студзеня ў Маладзечанскі ГРАНС з РАУС паведамілі пра тое, што ў абгарэлай кватэры па вуліцы Драздовіча знайшлі труп жанчыны.**

На месца выехалі супрацоўнікі ГРАНС, РАУС, раённага аддзела Следчага камітэта і пракуратуры.

Калі яны прыехалі, гарэння і задымлення ў кватэры не было. Высветлілі, што 5 студзеня пасля 16:00 22-гадовы сын загінулай, студэнт Полацкага ўніверсітэта, прыехаў да маці на выхадныя і знайшоў яе труп на падлозе ў кватэры. Хлопец патэлефанаваў у «хуткую дапамогу» і ў міліцыю. Медыкі, якія прыехалі па выкліку, канстатавалі смерць.

Падчас агляду цела бачных апёкаў на целе загінулай не было.

Апавяшчальнік у кватэры не ўстаноўлены.

Пажар знішчыў канапу ў пакоі, закураныя столь, сцены і маёмасць.

У ГРАНС пра пажар у кватэры ніхто не паведамляў, расказала інспектар прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

Прычыну здарэння высвятляюць. Разглядаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём падчас курэння.

Маладзечанскі ГРАНС рэкамендуе паставіць пажарны апавяшчальнік. І нагадвае, што самай распаўсюджанай прычынай пажараў з'яўляецца курэнне ў нецвярозым стане.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У пажары на Смаргоншчыне загінулі двое

СМАРГОНЬ

Паведамленне пра пажар смаргонскія выратавальнікі атрымалі ноччу з 6 на 7 студзеня.

Гарэў жылы дом у вёсцы Пастарыні-2 на Смаргоншчыне.

Агонь знішчыў дах, перакрыцці, пашкодзіў сцены.

На пажары загінулі 69-гадовы гаспадар і яго 50-гадовая сужыцельніца.

Прычыну высвятляюць.

**Паводле сайта МНС.**

## З кватэры ў вілейчука скралі тэлевізар і прадукты

ВІЛЕЙКА

У злачынстве падазраюць жыхарку Вілейкі.

Пятага студзеня ў міліцыю звярнуўся жыхар Вілейкі. Ён паведаміў, што ў перыяд ад 30 снежня да 5 студзеня невядомы злачынца скраў з яго незачыненай кватэры маёмасць.

Знік тэлевізар, а таксама прадукты на агульную суму 531 рубель. У злачынстве падазраюць 40-гадовую мясцовую жыхарку, якая нідзе не працуе.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Грамадзянін Літвы перакуліўся на машыне ў Валожынскім раёне

ВАЛОЖЫН

ДТЗ адбылося 2 студзеня на 75-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Ашмяны-мяжа Літвы.

48-гадовы грамадзянін Літвы кіраваў аўтамабілем «Форд-Транзіт». Мужчына не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перакуліўся.

Пацярпела 50-гадовая пасажырка. У яе – закрытая чэрапна-мазгавая траўма.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Рабочыя ехалі з АЭС і патрапілі ў ДТЗ

АСТРАВЕЦ

Пацярпелыя вярталіся па маршруце Астравец–Мазыр з камандзіроўкі з АЭС. Цяпер іх сваякі шукаюць абароны ў незалежным прафсаюзе.

Сваякі ахвяр ДТЗ звярнуліся ў незалежны прафсаюз РЭП у надзеі на дапамогу ў прызнанні траўмаў вытворчымі.

У Асіповіцкім раёне ў верасні на трасе Мінск–Гомель Nissan «дагнаў» на хуткасці больш за 120 кіламетраў у гадзіну «Газэль», якая перавозіла камандзіраваных рабочых. Ад удару абедзве машыны зляцелі ў кювет і перакуліліся.

Кіроўца легкавіка і пасажыр мікрааўтобуса загінулі на месцы. Выжылі восем чалавек – кіроўца «Газэлі» і яго сем пасажыраў. Іх з траўмамі даставілі ў медустанову, а ў бальнічных указалі «Бытавая траўма».

– Будзем разбірацца, ці з'яўляецца ў камандзіроўцы час у шляху да месца працы і назад рабочым, а атрыманыя траўмы вытворчымі, – паведаміў юрыст прафсаюза РЭП **Леанід Судаленка**.

**Паводле KP.BY.**



Віталь Качаткоў (злева) атрымлівае сертыфікат «Асоба года-2018» ад галоўнага рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча.

# «Выдаў пяць альбомаў і дзве кнігі – і перастаў баяцца смерці»

## Асоба года-2018 маладзечанец Віталь Качаткоў атрымаў узнагароду «РГ»

**Чаму магазін сантэхнікі нагадвае сэкс-шоп, чый самы смачны боршч і якая кніга найбольш зачапіла.**

Качаткоў вядомы як гаспадар адразу некалькіх бізнесаў – магазіна сантэхнікі, сэканда-хэнда, банкетнай залы «Глухар». У мінулым годзе ён вырашыў на тэрыторыі «Глухара» зрабіць месца, дзе можна займацца творчасцю. Цяпер гэта некалькі тэматычных пляцовак, дзе можна ладзіць фотасесіі і займацца творчасцю.

### Што пакінуў у 2018 годзе

– Фатографы ў Маладзечне звычайна валодаюць тэхнічным бокам. Далей можна ісці шляхам фоташопа, але свет ад гэтага паступова адмаўляецца. Іншы шлях – стылістыка і настрой. Як расставіць звычайныя прадметы так, каб атрымаўся нацюрморт? Як выставіць святло? Тут варта павучыцца ўзорам працы італьянскіх і французскіх майстроў.

Дачка Аліса вучыцца ў БНТУ на фатографа. Ці шмат сярод фатографаў тых, хто атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці? Мы з жонкай вырашылі падтрымаць яе імпэт і зрабілі гэту пляцоўку.

У нас крэатыўны падыход да фота пакуль не запатрабаваны. У Кітаі, напрыклад, 80% бюджэту вяселля ідзе менавіта на стварэнне карцінкі. Гэта не толькі праца фатографа, але ўся падрыхтоўка пляцоўкі, работа са святлом, дызайн, стылісты… Гэта як падрыхтоўка п'есы, дзе галоўнымі героямі з'яўляюцца нявеста і жаніх.

Сучасным светам кіруе карцінка. Зрабіць якасны прадукт мала. А афарміў яго прыгожай карцінкай – значыць, прадасі. Людзі любяць прыгожыя вывы, і не важна, гэта статычнае фота ці дынамічнае відэа. Галоўнае – крэатыў і думка, якая закладзеная ў кадр.

### Што загадаў на 2019

Напэўна, я ўжо не ў тым узросце ці стане, каб загадваць жаданні. Можа, таму, што перастаў баяцца.

Калі зрабіў пяць музычных альбомаў і выдаў дзве кнігі, то перастаў баяцца смерці.

### Як святкаў Новы год

Дачка Аліса працавала ў «Макдональдсе», пасля адпачывала з сябрамі. Так што да нас не даехала.

Затое старэйшы сын Эдуард прывёз сяброўку.

Малодшы Сямён у Дзеда Мароза перастаў верыць у восем год. Але пад ёлкай больш за ўсё падарункаў было менавіта ад яго.

Дома ў нас не саладжавыя адносіны. Мы любім сатырычныя жарты, і ўвогуле, усё па-даросламу.

Падчас свята шмат размаўлялі, схадзілі на салют.

### Што плануе на 2019

Трымаць абарону перыметра па бізнесе. Год абяцае быць яшчэ больш складаным.

Хаця народ, нашы кліенты, сумаваць не даюць. Аднойчы знаёмая з Ізраіля дзень правяла ў нашай краме сантэхнікі і кажа: «Аёй, ды ў вас тут сэкс-шоп нейкі! Мама, тата, такія размовы, што не зразумееш, пра што гаворка».

Музыка – гэта аддушына. Але распыляцца не варта, гэта шкодзіць якасці.

### Што з шахматамі

Гэта адзін з творчых праектаў. Першую кнігу шахматных задач буду перавыдаваць. Другой прыйдзе яшчэ адна партыя.

Калі трэнеры пачалі яе раіць – значыць, напаткаў поспех. І разумныя бацькі кнігі набываюць.

Так у год па кніжцы, і да пенсіі збяру дзясятак кніжак.

### Пра тэхналогіі

Большасць людзей выкарыстоўвае сучасныя магчымасці не так, як варта было б. Але можна ж выкарыстоўваць інтэрнэт на карысць.

У Сямёна ёсць складанасць з матэматыкай. 6 клас, працэнты. Кажу, знайдзі тлумачальнае відэа на ютубе. Там жанчына за 12 хвілін пра працэнты так расказала, што зразумее кожны, і ніводнага лішняга слова! Я проста закахаўся ў яе!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

### Любімы колер

Няма, напэўна. А хаця было некалькі балончыкаў залацістай фарбы. Усё, што можна, ёй пакрываў – і рэчы адразу так прыгажэлі. Ну так, любімы колер – залаты.

### Любімая ежа

Боршч, прычым ад канкрэтнага чалавека. На Лебядзіным сярод «Сайгонаў» ёсць пункт в'етнамца Мішы. У яго боршч па тры рублі, нічога смачнейшага не еў. І ў чым справа? Можа, нейкія спецыі асаблівыя?

### Музыка для добрага настрою

Свая музыка хутчэй для рамантычнага, а такі настрой добрым не назавеш.

Гледзячы што лічыць добрым настроем. Можа, і Бах класна зайсці. А калі хуліганства ўнутры, то і Верка Сярдзючка.

У арміі любіў «Жалобны марш» Шапэна.

### Самы першы дзіцячы ўспамін

Трэба ў сябе пагрузіцца, каб узгадаць першы. Раскажу проста выпадак з дзяцінства.

Летам быў у вёсцы ў дзеда. Быў самаробны лук, і я шукаў добрую цэль, куды б пастраляць. Найлепшай цэллю мне падаўся партрэт Сталіна. Я не ведаў, хто гэта, проста падумаў, што зручна страляць туды.

Гэта быў недзе 1975-80 год, не помню дакладна. Але за такое ўжо не расстрэльвалі. Затое дзед страшна ўзлаваўся, з сякерай па вёсцы паганяў. Здаецца, нават на сенавале начаваць застаўся.

### Найлепшы падарунак

У дзяцінстве радавалі пісталецікі, паравозікі. А ў дарослым жыцці я сам сабе раблю падарункі, напрыклад, захапляльную паездку.

### Кніга, якая найбольш зачапіла

Кафка. Чытаў «Працэс», «Замак», «Пераўтварэнне». Я быў у шоку. У многіх момантах пазнаваў сябе. У літаратуры Кафка – тое, што найбольш уразіла.




*Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, ёсць нюансы, абмяняю на іншы а/м або прадам. 2 600 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в, 1,8 бензін, нядорага, добры стан. Т. МТС (8-029) 5689198.*

• Нісан-Прымера, 1995 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рухавік «Масквіч 412» 1-ай камплектнасці. Т. (8-044) 4703638.

• Рэно-Меган, 1998 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Драздовіча, 4. Т. (8-029) 6998856.

• 1-пакаёвая кватэра ў Мінску, р-н Лошыца, 4 паверх. Т. (8-044) 7908932*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Віленская, 31, агульная 48,7, жылая 28,4, с/в раздзельны, 3 паверх цаглянага дома. Т. (8-029) 8165933.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Драздовіча, 3 паверх. Т. (8-029) 2716116.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Дом у а.г.Мацькаўцы Вілейскага р-на. Нядорага. Т. (8-029)6110737.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Мінск 16Е***» у працоўным стане. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3563837.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25, рухавік Д-21, касілка, капалка. Т. (8-029) 7892846.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Секцыя «Вікторыя»; арэнбургская пуховая хустка, новая. Нядорага. Т. МТС (8-029) 5719435.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза. Т. (8-0176) 726332.*

**Іншае**

• Бульба харчовая і кармавая. УАЗ-3303. Брусовачнік. Шчэпкадрабілка. Даільны апарат. Т. (8-029) 9995038.

• Гной 60 кг, 2 руб. Т. (8-029) 5606607.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*



### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Зборка і ўстаноўка мэблі. Т. (8-029) 7040346.*

• Шукаю падпрацоўку. Досвед: усе віды будаўнічых, аддзелачных работ; малярныя работы, работы з гіпсакардонам, тынкоўка, ламінат, вагонка, сайдынг, афарбоўка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*

• Дэмантажныя работы, дах, чарнавыя столі, кладка, сцяжкі, спілоўванне дрэў і г. д. Т. (8-044) 7556706.

# Замураваныя мошчы святых знайшлі ў Мядзельскім касцёле

**У Мядзельскім касцёле Маці Божай Шкаплернай знайшлі замураваныя мошчы святых і старыя парафіяльныя запісы.**



Фота svaboda.org.

Знойдзеныя мошчы і метрычныя кнігі.

Іх схавалі ў 1940 годзе, каб зберагчы ад знішчэння з прыходам савецкай улады. У часы СССР у храме быў склад штучных угнаенняў. Сёння касцёл вярнулі вернікам.

Ксёндз **Юры Кулай** распавёў, што звесткі аб схаванай скрынцы знайшліся ў адным з кракаўскіх архіваў. У нішы ў сцяне ляжалі кнігі XIX стагоддзя – гэта былі парафіяльныя рэгістры хрышчэнняў, шлюбаў і памерлых мецэнатаў.

Акрамя таго, у нішы былі царкоўныя рэліквіі. Гэта мошчы святой Цэцыліі, якая жыла ў II стагоддзі. Таксама там захоўваліся мошчы святой Тэрэзы. Пры іх былі дакументы, якія пацвярджаюць сапраўднасць мошчаў. Па словах Юрыя Кулая, гэта адны з самых старажытных мошчаў у Беларусі.

**Паводле Еўрарадыё.**



Фота Pixabay.

Махнаногі сыч.

## На Астравеччыне зробяць штучныя гнёзды для соў

АСТРАВЕЦ

**Гаспадар аграсядзібы «Хутар Камарышкі» ля Сарачанскіх азёр запускае экалагічную ініцыятыву.**

Каб прыцягнуць соў у лясы, **Аляксандр Дарашэвіч** плануе стварыць домікі для птушак. У лясах Астравеччыны яму вядомыя біятопы чатырох відаў соў. Савятнікі зробяць з вучнямі Спондаўскай школы і лягсасам, які дае патрэбныя дошкі і брускі.

– У Беларусі сустракаецца больш за дзесяць відаў соў, большасць з іх – чырванакніжныя, – расказвае гаспадар сядзібы. – Для большасці з іх патрэбныя дуплы, якія могуць размяшчацца ў старых дрэвах. Але з-за інтэнсіўнай высечкі і догляду лягсаса, накіраванага найперш на атрыманне таварнай драўніны, месцаў гнездавання становіцца ўсё менш.

Дарашэвіч – каардынатар Зялёнага Дазору па Астравецкім раёне. Таму пастаянна аналізуе экалагічныя праблемы мясцовасці. І выражае, што неабходны штучныя гнездаванні.

**Пасля вырабу прааналізуюць біятопы, прыдатныя для гнездавання розных відаў соў. На першым этапе абралі чатыры віды: даўгахвостая кугакаўка, шэрая кугакаўка, сіпель і махнаногі сыч.**

Пасля ініцыятар будзе праводзіць маніторынг засялення і прыцягваць да супрацоўніцтва іншыя школы.

**Аддзел інфармацыі.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота Chaplins.

Выстава «IMM Cologne» ў 2018 годзе.

# Убачце дом будучыні на выставе ў Кёльне

**Выстава «IMM Cologne» – гэта адна з найбуйнешых падзей у свеце вытворцаў мэблі і працы над інтэр'ерам.**

Менавіта на гэтай імпрэзе штогод збіраюцца найлепшыя прадстаўнікі сферы, каб паказаць свае навінкі і падзяліцца сваім бачаннем, куды будзе рухацца дызайн. Гэта выдатная магчымасць злавіць натхненне, атрымаць разуменне, куды рухацца сусветны рынак інтэр'ера. Што будзе актуальным на рынку, а што ўжо састарэла – відаць менавіта тут.

Звычайна выстава працуе па наступнай тэматыцы: тэхналогія дызайну, мэбля для кухні, сталы і крэслы, мэбля для ванных пакояў, інфармацыйныя тэхналогіі ў мэблевай прамысловасці.

У межах выставы праходзіць шэраг іншых мерапрыемстваў. Напрыклад, узнагароджанне прэміяй за дасягненні ў галіне дызайну. Праводзяць тэматычныя лекцыі і прэзентуюць даклады пра праблемы і інавацыі ў галіне. Гэта выдатная магчымасць падыскутаваць і навучыцца новаму.

### Чаму выстава такая папулярная

Менавіта тут вы зразумееце, што будзе на піку ў наступныя гады, а якія трэнды сыходзяць. Палітыка якой кампаніі ў галіне была найбольш выйгрышнай і эфектыўнай? Менавіта тут бачаць свет дызайнерскія навінкі. Некаторыя з іх будуць масава выпускаць і паступова абставяць нашы дамы. А іншыя працы выпусцяць абмежавана. Можна ўбачыць і прадуманы погляд на класічную абстаноўку.

Сёлета выстава будзе падзелена на некалькі раздзелаў:

Базік – асноўны сегмент выставы. Сюды звозяць самыя разнастайныя тавары з розных краін свету.

Таленты дызайну – гэта асобны блок, на якім вітаюць навічкоў. Менавіта тут вы ўбачыце самы неардынарны дызайн. Часцей за ўсё тут найбольш здзіўляюць незвычайным поглядам на звычайныя рэчы.

Прайм – гэта больш парадны раздзел. Тут вы ўбачыце мэблю для гасцёўных, асвятленне, аксесуары. Як укараніць навейшыя тэхналогіі ў мэблю?

Смарт – самая найсучасная мэбля. Маладым і амбіцыйным людзям патрэбная як мага больш функцыянальная мэбля, якую лёгка трансфармаваць.

Сліп – раздзел царства сну. Тут вы знойдзеце ўсё, што зробіць ваш сон як мага больш здаровым.

Камфорт – блок, які аб'ядноўвае мэблю для адпачынку. Самыя мяккія канапы, крэслы так і вабяць гледача.

### Тэндэнцыі 2018

Пакуль мы чакаем сёлетняй выставы, паглядзім, як сябе паказалі трэнды мінулага года. Цікава, ці многія з іх будуць яшчэ актуальныя.

Адна з асаблівасцяў мінулага паказу – манахромнасць мэблі. Гэта вельмі элегантны падыход – няма больш стыльнай расфарбоўкі, чым у адзін колер. Прычым колеры могуць быць вельмі сакавітыя. Аднак менавіта тое, што гэты колер чысты на ўсёй паверхні экзэмпляра, робіць мэблю вытанчанай і ненадакучлівай. А колеры прапануюць даваць не ад прадаўца – гэта значыць, каб пакупнік абіраў з абмежаванай прапанавай гамы. Не, колер павінны несці сам спажывец – такі, які хоча.

**Калі ж абіраць узор, то графічны. Строгія лініі – гэта і дынаміка, і стрыманасць.**

Дакладныя контуры мэблі і стрыманасць у афарбоўцы ствараюць уражанне ідэальнага парадку – нібы гэта не пакой, а карцінка, з рамы якой не хочацца выходзіць.

Галоўным колерам 2018 быў ультрафіялетавы. Інстытут колеру Пантон ахарактарызаваў яго так: «загадкавае адценне, якое абуджае дух вынаходніцтва і ўяўленне, якое здольнае кінуць выклік статус-кво».

**На змену яму галоўным колерам 2019 года назвалі «жывы карал». Пантон заявіў, што адценне сімвалізуе «імкненне да гульнявога самавыяўлення».**

Адной з фішак мінулага года былі экспанаты, дзе дрэва прапаноўвалі выкарыстоўваць у ванным пакоі. А вось мармур – у сталах, шафах і стэлажах.

**Эмілія ХВОЯ.**

## Беларускую экспазіцыю ўпершыню пакажуць на «IMM Cologne»

**Вядучыя беларускія арганізацыі і прадпрыемствы дрэваапрацоўчай і мэблевай прамысловасці ўпершыню стануць удзельнікамі найбуйнейшай выставы «IMM Cologne». Яна пройдзе ў Кёльне 14-20 студзеня.**

Летась у выставе ўдзельнічала больш за 1300 экспанатаў з 51 краіны. На саму імпрэзу завітала больш за сто тысяч чалавек.

Беларускія вытворцы сёлета пакажуць сябе на адзінай калектыўнай экспазіцыі агульнай плошчай 200 квадратных метраў. Яна будзе вытрыманая ў стылістыцы беларускай кватэры з кухняй, гасцінай, спальнямі, гардэробнай і прыхожай. На экспазіцыі пакажуць прадукцыю такіх фабрык, як «Маладзечнамэбля», «Івацэвічдрэў», «Гомельдрэў», «Магілёўдрэў», «Рэчыцадрэў», «ФанДОК», і іншых.

15 і 16 студзеня на прэзентацыйнай пляцоўцы пройдуць семінары і прэзентацыі беларускай дрэваапрацоўчай прамысловасці з удзелам Пасла Беларусі ў Германіі **Дзяніса Сідарэнкі** і старшыні праўлення мэблевай і дрэваапрацоўчай прамысловасці.

**Паводле Беларускай гандлёва-прамысловай палаты.**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Вока і трыкутнік

## Вашы містычныя здольнасці



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

**Як бачыце, на гэтым рысунку ёсць толькі вока. Трыкутнік вы павінны дамаляваць самі, прычым яго памер, знешнія параметры і месцазнаходжанне залежаць толькі ад вас. Улічыце, што вока і трыкутнік павінны складаць адзіную кампазіцыю.**

**Ключ да тэста**

• Калі вы намалявалі **ЧОРНЫ (ЦАЛКАМ ЗАРЫСАВАНЫ ТРЫКУТНІК)**, то гэта значыць, што вы валодаеце пэўнымі містычнымі здольнасцямі, але наколькі яны моцныя, можна будзе зразумець толькі з сукупнасці ўсіх тлумачэнняў. **НЕЗАРЫСАВАНЫ ТРЫКУТНІК** кажа пра тое, што вы не валодаеце ніякімі містычнымі здольнасцямі. **ТРЫКУТНІК З ЯРКАЙ АБЛЯМОЎКАЙ** паказвае на тое, што вы схільныя да містыцызму, але вашы здольнасці альбо неразвітыя, альбо падушаныя вашай воляй. Для таго, каб яны праявіліся, вам трэба зрабіць нейкае намаганне.

• Калі вы **РАЗРЫСАВАЛІ ВОКА (нарысавалі ВЕЙКІ, АБВЯЛІ ЯГО і г. д.)**, то гэта значыць, што ніякімі экстрасэнсорнымі здольнасцямі вы не валодаеце, хоць хочаце гэтага ўсёй душой. Вы любіце містыку і з задавальненнем наведваеце спірытычныя сеансы, ходзіце да празорцаў і знахароў, купляеце амулеты і г. д. Але ўсё гэта не мае карысці, і добра, калі вы ставіцеся да ўсяго містычнага як да своеасаблівай гульні.

• Калі вы **ЎПІСАЛІ ВОКА Ў ТРЫКУТНІК**, то гэта значыць, што вы адчуваеце ў сабе пэўную сілу і спрабуеце навучыцца кіраваць ёю. Вашы містычныя здольнасці дастаткова вялікія, і калі вы будзеце ўмела імі карыстацца, то зможаце шмат чаго дасягнуць у жыцці.

• Калі вы **ЎПІСАЛІ Ў ТРЫКУТНІК НЕ ЎСЁ ВОКА, А ТОЛЬКІ ЯГО РАДУЖНУЮ АБАЛОНКУ**, то гэта гаворыць пра тое, што вы наўмысна ўводзіце людзей у зман, дэманструючы свае рэальныя ці ўяўныя містычныя здольнасці. Вам падабаецца эпатаваць публіку і выклікаць захапленне ў навакольных.

• Калі вы **ЎПІСАЛІ ТРЫКУТНІК У ВОКА, размясціўшы яго ВЯРШЫНЯЙ УВЕРХ**, то гэта гаворыць пра тое, што вы маеце схільнасць да містыцызму і маглі б чаму-небудзь навучыцца, паколькі ў вас ёсць невялікія здольнасці. Аднак вы баіцеся забрацца ў нетры містыкі і аддаяце перавагу цікавіцца ёю адхілена, застаючыся на бяспечнай адлегласці. Вам падабаюцца фільмы, кнігі і карціны на гэту тэму, але ў жыцці вы аддаяце перавагу яснасці і прастаце. І ніякіх палтэргейстаў!

• Калі ж вы **ЎПІСАЛІ ТРЫКУТНІК У ВОКА, размясціўшы яго ВЯРШЫНЯЙ УНІЗ**, то гэта гаворыць аб вашай любові да ўсяго незвычайнага і невытлумачальнага, вас прыцягвае містыка, і вы гатовыя пагрузіцца ў яе з галавой. Вам варта быць асцярожнымі: вы лёгка можаце страціць пачуццё меры і пазбавіцца цвёрдай глебы пад нагамі.



## 8 канал

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.10, 21.05, 0.35** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.15, 16.00** «Юморинка».
**7.20** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.20, 16.45** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.05** Д/ф «БУШУЮЩАЯ ПЛАНЕТА».
**10.50, 19.15** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.10** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ЖЕРТВА».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**18.20** Т/с **«КАСЛ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЖОННИ Д».**
**23.25** Д/ф «КОНВЕЙЕР СМЕРТИ».

**ВТОРНИК, 15 ЯНВАРЯ**

**7.00, 16.05, 19.15, 21.10** «Погода».
**7.05, 16.15** «Мульт-парад».
**7.25, 16.10** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.30, 16.45** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** Мой любимый питомец.
**10.30, 18.20** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15, 19.20** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.45** Х/ф **«МЕТЕЛЬ».**
**14.00** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«НОЧНОЙ БЕГЛЕЦ».**
**23.10** Х/ф **«СИРЕНА МИССИСИПИ».**

**СРЕДА, 16 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.20, 21.05, 0.15** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.20, 17.00** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30, 18.35** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15, 19.25** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.35** Х/ф **«ТАБАЧНЫЙ КАПИТАН».**
**14.00** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МИМИНО».**
**22.45** Х/ф **«ЧИСТО ОДЕССКАЯ ИСТОРИЯ».**

**ЧЕТВЕРГ, 17 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.00, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.30, 17.00** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** Сад и огород.
**10.15, 18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**11.00, 19.05** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.25** Х/ф **«КРЕПОСТНАЯ АКТРИСА».**
**14.00** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**23.30** Х/ф **«ПЕРВЫЙ ПОСЛЕ БОГА».**

**ПЯТНИЦА, 18 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.05, 21.10, 0.50** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**9.15** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30, 17.50** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.25** Х/ф **«СИРОТА КАЗАНСКАЯ».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ ЛЕТО 53-ГО».**
**18.35** «Мой любимый питомец».
**19.10** Х/ф **«УБИЙСТВО РОДЖЕРА ЭКРОЙДА».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЧУДО НА ГУДЗОНЕ».**
**23.00** Х/ф **«ВОЗДУШНЫЙ МАРШАЛ».**

**СУББОТА, 19 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.00, 21.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Принцесса и лягушка».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино «Унесенные ветром» 1939 г.
**13.20** Х/ф **«НЕВЕСТА И ПРЕДРАССУДКИ».**
**15.10** «Отвечайка».
**15.15** Мультфильмы «Пернатый спецназ».
**16.30** Х/ф **«КИН-ДЗА-ДЗА».**
**18.45** «Друзья дедушки Марко».
**19.05** Х/ф **«СУДЬБА ЛОРДА ЭДЖВАРА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«БОЙ С ТЕНЬЮ».**
**23.25** Х/ф **«ПАСПОРТ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.40, 18.55, 21.05** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Тарзан».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**11.35** «Рисуя Китай».
**12.15** Х/ф **«ВОДИТЕЛЬ ДЛЯ ВЕРЫ».**
**14.10** Д/ф «СЧАСТЛИВЫЕ ЛЮДИ».
**15.45** «Смотрим всей семьей». «Мой домашний динозавр».
**17.40** «Отвечайка».
**17.45** «Друзья дедушки Марко».
**18.00** Т/с **«ОНА НАПИСАЛА УБИЙСТВО».**
**19.00** Х/ф **«УБИЙСТВО НА ПОЛЕ ДЛЯ ГОЛЬФА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВЫКУП».**
**23.15** Х/ф **«АВАРИЯ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ЯНВАРЯ**

**6.05** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ».**
**8.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХАЯ УЧИЛКА».**
**10.05** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ».**
**11.55, 17.25, 22.20** Мажорный лад.
**14.00** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ».**
**15.35** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ».**
**18.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Свет души.
**20.20** Х/ф **«8 ПЕРВЫХ СВИДАНИЙ».**

**ВТОРНИК, 15 ЯНВАРЯ**

**6.15, 7.15, 9.20** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15, 18.40, 21.50** Афиша.
**8.25** С песней по краю.
**9.10** Новости БЖД.
**10.20** Х/ф **«ДНЕВНИК КАРЬЕРИСТКИ».**
**12.05** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХАЯ УЧИЛКА».**
**13.55** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ».**
**15.50** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ 2: ТОЛЬКО ВПЕРЕД».**
**17.45, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Студия «Прожектор». Белорусские сказки.
**20.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ДРУГИЕ КАТАСТРОФЫ».**

**СРЕДА, 16 ЯНВАРЯ**

**6.50, 8.20** Песня на завтрак.
**6.40, 7.40, 18.40, 21.40** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Белорусские сказки. Студия «Прожектор».
**8.35** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**10.15** Х/ф **«УБЕЙ МЕНЯ ТРИЖДЫ».**
**11.55** Х/ф **«СУПЕРСТЮАРД».**
**13.55** Х/ф **«МАМА ДАРАГАЯ!».**
**15.35** Х/ф **«ДНЕВНИК КАРЬЕРИСТКИ».**
**17.20, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 17 ЯНВАРЯ**

**6.30, 7.20, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.40, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40, 18.30** Новости БЖД.
**9.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**10.35** На вячоркі да Фядоркі.
**11.05, 17.45, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**13.55** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА».**
**16.05** Х/ф **«УБЕЙ МЕНЯ ТРИЖДЫ».**
**19.20** Каникулы мечты.
**20.20** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**

**ПЯТНИЦА, 18 ЯНВАРЯ**

**6.55, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.40, 7.40, 19.50, 21.40** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.55** Х/ф **«НЕ УСТУПИТЬ ШТЕЙНАМ».**
**10.35** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**12.15** Х/ф **«ЖЕНИСЬ НА МНЕ, ЧУВАК».**
**14.00** Х/ф **«ПРАЗДНИЧНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**16.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**17.50, 19.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Свет души.

**СУББОТА, 19 ЯНВАРЯ**

**5.55, 7.30** Песня на завтрак.
**6.45, 8.30, 18.40, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**8.40, 17.45** Свет души.
**9.10** На вячоркі да Фядоркі.
**9.35** Х/ф **«ПРАЗДНИЧНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**11.50** Х/ф **«МАЛЕНЬКАЯ ЧЕРНАЯ КНИЖКА».**
**13.50** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**15.20** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**18.15, 21.00** Новости БЖД.
**19.25** Новогодний серпантин!
**20.30** Желаем вам.
**21.15** С песней по краю.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ЯНВАРЯ**

**5.50** Х/ф **«ПАРЕНЬ С НАШЕГО КЛАДБИЩА».**
**7.35** Х/ф **«Я ВЫШЛА ЗАМУЖ ЗА ПРИДУРКА».**
**9.40** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**11.35** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА».**
**13.55** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2».**
**15.55** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**17.50** Х/ф **«МОЯ БЫВШАЯ ПОДРУЖКА».**
**19.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**21.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2».**

## Беларусь 1

**6.20, 12.35** Т/с **«СВАТЫ 3».**
**7.10, 16.30** Х/ф **«ПРОШУ ПОВЕРИТЬ МНЕ НА СЛОВО».**
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45** Истории спасения.
**10.30** Маршрут построен. Орша.
**11.10** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** Твой город.
**15.30** Клуб редакторов.
**16.10** Агентства телевизионных новостей.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«СВОЙ ЧУЖОЙ СЫН».**

## Беларусь 2

**6.55** Х/ф **«ШЕСТЕРО СТРАНСТВУЮТ ПО СВЕТУ».**
**8.05, 19.50** Телебарометр.
**8.10** Т/с **«ЧИП И ДЕЙЛ СПЕШАТ НА ПОМОЩЬ».**
**8.55** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**9.50** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**10.50** Х/ф **«СТРАННАЯ ЖИЗНЬ ТИМОТИ ГРИНА».**
**12.35** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ: МЕСТЬ ПАДШИХ».**
**15.05** «Свадебный размер». Реалити-шоу.
**16.00** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.45** «Битва экстрасенсов. 18-й сезон». Реалити-шоу.
**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.
**22.00** КЕНО.
**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу.
**23.05** «Сыграй меня, если сможешь».

**23.35** «Орел и Решка. Кругосветка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевiктарына.
**8.00, 14.15, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 14.35, 20.30** Гэты дзень.
**8.25** Мультфільм.
**8.30** «Будзьце маім мужам». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Беларуская кухня». Паляндвіца па-гусарску.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Чорны прынц». Мастацкі фільм.
**13.25** «Майстры і куміры». Народны артыст Беларусі Эдуард Ханок.
**14.40** Юбілейны канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.
**16.20** «Шмат шуму з нічога». Мастацкі фільм.
**17.40** «Дзяржаўная граніца». Фільм другі «Мірнае лета 21-га года».
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Белыя росы». Мастацкі фільм.
**22.30** «Артэфакты». Знакамітая манаграфія Казіміра Семяновіча – трактат «Вялікае мастацтва артылерыі».
**23.00** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака». Ганна Сілівончык і Васіль Пяшкун.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ».**
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** «Метеогид».
**9.45** «Здоровье».
**10.55** Непутевые заметки.
**11.15** Х/ф **«ЗА СПИЧКАМИ».**
**13.15** К 75-летию Родиона Нахапетова. Премьера. «Русский в городе ангелов».
**14.15** Х/ф **«ЧУЖИЕ ДЕТИ».**
**16.20** «Судьба моя – Беларусь».
**16.40** «Три аккорда» в Государственном Кремлёвском дворце.
**18.15** «Лучше всех!» Новогодний выпуск.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Весёлых и Находчивых».
**23.25** Х/ф **«НЕСОКРУШИМЫЙ».**

## СТВ

**6.05** «Пища богов».
**8.15, 10.30, 23.15** Документальный спецпроект.
**10.00** «Центральный регион».
**12.20, 13.40, 16.40, 20.35** Т/с **«ОХОТА НА БЕРИЮ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.45** «Неделя спорта».
**0.25** Т/с **«МЕТОД».**

## Мир

**6.00, 6.30, 7.30, 8.35** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**7.05** «Беларусь сегодня».
**8.05** «Культ/туризм».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Еще дешевле».
**10.45, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ЛИСТ ОЖИДАНИЯ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**2.40** Т/с **«ЗНАК ИСТИННОГО ПУТИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.40, 23.20** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.10** Т/с **«АГЕНТ ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ».**
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** Женщины и спорт.
**8.50** «Устами младенца».
**9.25** «Истории ремонта».
**10.25** «Первая передача».
**11.00** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** «НашПотребНадзор».
**13.35** «Поедем, поедим!».
**14.20** Т/с **«ВРАЧ».**
**16.25** «Следствие вели…».
**17.15** Х/ф **«КОММУНАЛКА».**
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** Х/ф **«РАСКАЛЕННЫЙ ПЕРИМЕТР».**
**23.50** «Джуна. Моя исповедь».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«ПОЗДНИЕ СВИДАНИЯ».**
**8.50** Х/ф **«ЖЕНИХ».**
**10.30** «Смехопанорама».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сам себе режиссер».
**12.05** «Утренняя почта».
**12.40** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**13.30** Х/ф **«СНЕГ НА ГОЛОВУ».**
**15.10, 21.45** Т/с **«ВРЕМЯ ДОЧЕРЕЙ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**0.20** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**8.10** 12 лет рабства. **13.05** Комната страха. **15.25** Отчаянный. **17.30** Анна Каренина. **20.10** Отверженные. **23.05** Дивергент, глава 2: Инсургент. **1.30** Резня. **2.55** Двойник. **4.25** Колдовство.

### TV1000 ACTION

**7.00** Чёрная дыра. **9.05** Счастливое число Слевина. **11.15** Идеальный побег. **13.15** Джанго освобождённый. **16.25** Мы были солдатами. **19.10** Онг Бак. **21.10** Собственность дьявола. **23.20** Возмездие. **1.35** Затоічи. **3.35** Опасный квартал. **5.10** Большое дело.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** 9 рота. **9.00** Привычка расставаться. **10.40** Москва, я терплю тебя. **12.30** Старое доброе кино: Белая птица с чёрной отметиной. **14.30** Первые. **16.30** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **18.30** Нулевой километр. **20.20** Без границ. **22.20** Чёрная вода. **0.30** Околофутбола. **2.25** Дом Солнца. **4.25** О чём молчат девушки.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.45, 11.30, 12.15** Т/с **«ЭЛЕМЕНТАРНО». 13.00** Х/ф **«ХРОНИКА». 14.45** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ». 16.45** Х/ф **«5-Я ВОЛНА». 19.00** Х/ф **«РОБОТ ПО ИМЕНИ ЧАППИ». 21.15** Х/ф **«СУДНЫЙ ДЕНЬ». 23.15** Х/ф **«КРИКУНЫ 2». 1.15** Х/ф **«КРИКУНЫ». 3.15** Х/ф **«НАКАЗАНИЕ». 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 16.00, 0.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 9.00, 10.00, 17.00, 18.00, 1.00, 2.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ». 11.00, 12.00, 19.00, 20.00, 3.00, 4.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ВЕРЬ МНЕ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ВИОЛА ТАРАКАНОВА. В МИРЕ ПРЕСТУПНЫХ СТРАСТЕЙ 3. ФИЛЬМ 8». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ». 2.25** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО». 4.15** Х/ф **«НЕ УСТУПИТЬ ШТЕЙНАМ». 5.50** Х/ф **«ПАРЕНЬ С НАШЕГО КЛАДБИЩА». 7.35** Х/ф **«Я ВЫШЛА ЗАМУЖ ЗА ПРИДУРКА». 9.40** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!». 11.35** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 13.55** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2». 15.55** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ». 17.50** Х/ф **«МОЯ БЫВШАЯ ПОДРУЖКА». 19.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ». 21.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2». 22.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 3».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.05, 1.55, 2.50, 4.00, 5.10, 6.05** Зверь. **6.55, 7.55, 8.50, 9.55** Карточный домик. **11.00, 12.00, 13.10, 14.10, 15.20, 16.20, 17.30, 18.35, 19.40, 20.40, 21.45, 22.55** Истоки.

### ВТВ

**6.00, 7.20, 8.15, 9.10, 10.55, 11.55, 12.55, 13.55, 15.15, 18.35, 23.20, 1.35** Прогноз погоды на неделю. **6.05** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 7.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 3.15** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **9.15** Мультфильмы «ЧИЧИЛЭНД». **9.35** Мультфильмы «ЛИГА WATCHCAR». **10.00** Мультфильмы «МАШИНЫ СКАЗКИ». **10.25** Т/с **«ЕРАЛАШ». 11.00, 18.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **12.00** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «УСПЕТЬ ЗА 24 ЧАСА». **14.00** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **15.20** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА 4: ЖИЗНЬ ПОСЛЕ СМЕРТИ». 17.00** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА 5: ВОЗМЕЗДИЕ». 20.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **21.00** Х/ф **«КАПИТАН ФИЛЛИПС». 23.25** Х/ф **«ДВАДЦАТЬ ОДНО». 1.40** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **5.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.00, 23.25** Смешанные единоборства. UFC. **8.00** Плавание. Открытый чемпионат Беларуси. **9.15** Биатлон. Этап кубка мира. Рупольдинг. Эстафета. Женщины. **10.40** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед – Брайтон. **12.35** Фристайл. Лыжная акробатика. Этап кубка мира. Лэйк-Плэйсид. **14.10, 21.35** Биатлон. Этап кубка мира. Рупольдинг. Масстарт. Мужчины. **15.00** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Химки (Московская обл) – Цмокі-Мінск. **16.40, 22.30** Биатлон. Этап кубка мира. Рупольдинг. Масстарт. Женщины. **17.40** Легенды мирового спорта. **18.15** Женщины и спорт. Анастасия Веремеенко. **18.50** Спортцентр. **20.50** Итоги недели.

### EUROSPORT 1

**1.30** Теннис. Australian Open. Шестой день. **2.45, 11.00** Теннис. «Гейм, Шетт и Матс»-экстра. **3.00, 5.00, 7.00, 8.00, 9.00, 11.15, 13.15** Теннис. Australian Open. Седьмой день. **16.15** Теннис. «Гейм, Шетт и Матс». **16.45** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Женщины. Масс-старт. **17.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Закопане. Мужчины. HS 134. **19.45** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Мужчины. Масс-старт. **20.15** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **21.00, 21.45** Снукер. «Мастерс». Лондон. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 2.45** Автовинтаж. **6.30, 7.30, 17.30, 17.40, 2.05** Куда уходит детство. **6.40, 10.45** Вечер с Пикуленко. **7.20** Наезд! **7.40, 16.45, 18.30** Супергрузовики. **8.30, 10.25, 14.10, 16.30, 19.15, 0.00, 1.25, 3.15** Итоговые новости. **8.45** Авто: вторые руки. **9.00** Сити тестер. **9.30** Сравнительный тест. **10.00** Мото. Вторые руки. **11.30, 19.30, 22.30** Машины с того света (Сезон 5). **12.15, 20.15, 23.20, 3.30, 4.15** 9 злобных водителей. **12.45, 15.05, 20.50, 23.50, 4.45** Проверка на дороге. **13.00, 4.00** Вторичка. **13.15, 0.55, 1.40** Автодело. **13.40** Испытание на прочность. **14.25, 0.20** Советы юриста. **15.20, 18.20** Обновление. **15.30, 21.05, 5.00** Автомобильные музеи мира. **16.00, 21.35, 2.20, 5.35** Своими руками. **17.55** Автодрайв 2019. **22.05** Советы для каждого.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45, 15.30, 16.20** Речные чудовища. **9.40, 18.50** Бойня. **10.30, 11.20, 12.10, 13.00, 13.50, 14.40** Австралийские золотоискатели. **17.10, 17.30** Гараж: Последний приют. **18.00** Переделка старья. **19.40** Отбор: Великобритания. **20.30** Наука трюка. **21.20** Самые опасные дороги мира. **22.25** Снос сооружений: взрывная команда. **23.25** Строительство гигантов. **0.15** Строители суперкаров. **1.15, 1.40, 4.25, 4.50, 5.25** Полигон. **2.15, 2.35** Дроны. **3.00, 3.25, 3.55** Невероятные изобретения.

### HISTORY

**6.15, 6.45, 7.10, 7.35, 4.15, 4.45** Невероятные изобретения. **8.20, 9.10, 10.00** Взрывная Земля. **10.50, 11.15, 11.40** Погода, изменившая ход истории. **12.05** Люди Гитлера. **13.00** Величайшие мистификации в истории. **13.50** Смертоносный интеллект. **14.40** Загадочные убийства: царственные особы. **15.30** Преступность военного времени. **16.20, 16.50** Тайны Парижа. **17.20, 18.10, 2.35** Запретная история. **19.00** Скрытые следы: Гора Гитлера. **20.00** Как климат изменил ход истории. **20.55** Гении древнего мира. **22.00** Гений Марии Кюри: женщина, осветившая мир. **22.55** Лагерь Икс. **23.45** Тайны шести жен. **0.45** Салемская охота на ведьм. **1.40** Машины смерти. **3.25, 5.15** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.20, 7.45, 8.10** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **8.40, 9.05, 9.35, 10.00, 10.30, 10.55** Лучшие друзья собаки. **11.25, 12.25** Эволюция в действии. **13.25, 14.25** Спасение Сирги. **15.20, 16.15** Галапагосы. **17.10** Могучие реки. **18.00** Все об обезьянах. **19.00, 22.30** День из жизни Земли. **19.55, 23.25** Приключение в Юньнане с Найджелом Марвеном. **20.45, 0.15** Вторжение гигантских питонов. **21.40** Хищные питомцы. **1.05** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **2.00, 2.20, 2.40, 3.00** Путешествие по паркам. **3.20, 4.15** Дикий инстинкт. **5.10, 5.35** Ветеринары пограничья.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.50** Инженерные идеи. **7.40, 8.30, 4.25, 5.15** Авто – SOS. **9.15, 10.00** Дикий тунец: Север против юга. **10.50** Потрясающий доктор Пол. **11.35, 12.20** Сила племени. **13.05, 13.55, 0.15, 1.05** Марс. **14.45, 15.30** Три вождя. **16.20, 17.10** Осушить океан. **18.00, 18.45, 22.00, 22.45** Кремниевая долина. **19.30, 19.55** История десятилетий. **20.20** Как устроен интернет: 50 лет онлайн. **23.30** Осушить океан: Бермудский треугольник. **1.55** Международный аэропорт Дубай. **2.45, 3.35** Паранормальное.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.40** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **6.30, 23.00** Поймай и сними. **7.00, 12.00, 18.00, 0.10** Кухня с Сержем Марковичем. **7.15, 12.15, 18.20, 0.25** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **7.45, 12.45, 18.45, 0.50** Дело вкуса. **8.00, 19.30** Поймать лосося. **8.30, 20.00** Нахлыст. **9.00, 15.30, 20.30, 3.00** На рыбалку вместе с папой. **9.30, 16.00, 21.00, 3.30** Морская подводная охота. **10.00, 21.30** В поисках лосося. **10.30, 22.00** Охотник. **11.00, 17.35, 1.05, 5.00** Практическая школа нахлыста. **11.30, 19.00, 1.30, 5.30** В поисках хорошего клева. **13.00** На рыбалку с охотой. **13.35** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **14.00** Сам себе охотник. **14.30, 2.00** Рыбалка-шоу ТВ. **15.00, 2.30** Охота: собачья работа. **16.30, 4.00** Рыбалка сегодня. **16.45, 4.10** Донская рыбалка. **17.15, 4.40** Нож-помощник. **22.30** Охота и рыбалка в. **23.25** Советы бывалых.

### УСАДЬБА ТВ

**6.00, 10.10, 14.15, 17.40, 22.10** Большие идеи для маленького сада. **7.05, 11.10, 15.10, 19.10, 23.10, 3.15** Варенье. **7.15, 15.25, 19.20, 23.25** Лучки-пучки. **7.40, 11.45, 15.45, 19.35, 23.45, 3.35** Деревянная Россия. **8.10, 12.10, 16.10, 0.10, 4.05** Осторожно злая собака. **8.40, 12.40, 16.40, 20.30, 0.40, 4.35** Старые дачи. **9.10, 13.10, 17.10, 21.00, 1.10, 5.05** Дачные хитрости. **9.25, 13.30, 17.25, 21.15, 1.30, 5.15** Занимательная флористика. **9.40, 13.45, 21.35, 1.45, 5.35** Побег из города. **11.25** Академия огородника. **18.40** Огород круглый год. **20.00** Ремонт для начинающих. **2.15** Домашняя косметика! **2.35** Баня женского рода. **2.45** Паштеты. **3.00** Свечной заводик.

## SETANTA SPORTS

### ПЯТНИЦА

**0.00, 7.00, 12.00** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **1.00** Хоккей. НХЛ. «Оттава» – «Колорадо». **3.00** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: КУБОК ДЭВИСА. КУБОК ФЕДЕРАЦИЙ». **3.30, 18.00** Хоккей. НХЛ. «Тампа-Бэй» – «Торонто». **6.30** Д/ф «МЕСТО, ГДЕ РОЖДАЮТСЯ КЛУБЫ». **8.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Бетис» – «Реал Мадрид». **9.45** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: НБА. «ФИЛАДЕЛЬФИЯ-76». ФИЛ ДЖЕКСОН». **10.15** Футбол. Чемпионат Франции. «Сетн-Этьенн» – «Марсель». **13.00** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **14.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Сосьедад» – «Эспаньол». **15.45** Футбол. Чемпионат Испании. «Барслеона» – «Эйбар». **17.30** Д/ф «ЗВЕЗДЫ ФУТБОЛА». **20.00** Футбол. Чемпионат Франции. «Анжэ» – «Бордо». **21.45** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: СБОРНАЯ ГЕРМАНИИ. «ПСЖ». **22.15** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: СБОРНАЯ ИСПАНИИ. «ПЛОХИЕ ПАРНИ». **22.40** Футбол. Чемпионат Франции. «Лилль» – «Амьен».

### СУББОТА

**0.45, 11.15** Бокс. Еженедельный обзор. **1.15** Хоккей. НХЛ. «Тампа Бэй» – «Торонто». **3.15** Футбол. Шотландская премьер-лига. «Рэйнджерс» – «Селтик». **5.00** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ЛЕБРОН. ДЖОРДАН. ДЖОНСОН». **5.30** Д/ф «ЗВЕЗДЫ ФУТБОЛА». **6.00, 16.15** Хоккей. НХЛ. «Ванкувер» – «Буффало». **9.00** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: ЮЖНАЯ АМЕРИКА. ХОРВАТИЯ». **9.30** Футбол. Чемпионат Франции. «Анже» – «Бордо». **11.45** Бокс. Обзор лучших поединков. **12.45** Футбол. Чемпионат Франции. «Лилль» – «Амьен». **14.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Бетис» – «Реал Мадрид». **18.10, 20.25, 22.40** Футбол. Чемпионат Испании. **20.15, 22.30** «Сетанта Спорт Экстра».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ

**0.45** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: «БАРСЕЛОНА». АНЧЕЛОТТИ». **1.15, 16.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Рома» – «Торино». **3.00** Хоккей. НХЛ. «Сан-Хосе» – «Тампа-Бэй». **6.00, 20.15** Хоккей. НХЛ. «Эдмонтон» – «Калгари». **9.00** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: МАЙАМИ ХИТ». ВЕЧНО ВТОРЫЕ В НБА». **9.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Интер» – «Сассуоло». **11.15** Смешанные единоборства. Вечер UFC в Бруклине. **14.15** «Сетанта Спорт Экстра». **14.25** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Аталанта». **18.10, 22.40** Футбол. Чемпионат Испании. **22.15** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: КУБОК ДЭВИСА. КУБОК ФЕДЕРАЦИЙ».



Падарыць цеплыню свайго сэрца іншым – лёгка. У рэгіёне пойдуць вам насустрач.

# Хочаце паваланцёрыць? Вам будуць рады ў сацыяльных установах

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

**Ці лёгка праявіць сябе валанцёрам у сацыяльных установах Маладзечна, Вілейкі, Валожына, высвятляў карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты».**

Мы гутарылі з кіраўнікамі сацыяльна-педагагічных цэнтраў, школы-інтэрната, тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва, псіханеўралагічнага дома-інтэрната. Адказы крыху адрозніваліся адзін ад аднаго, але сэнс быў прыкладна аднолькавы: прыходзьце, валанцёрам мы заўсёды рады.

### Жаданне, любоў да дзяцей і... медыцынская даведка

У сацыяльна-педагагічным цэнтры ў Шылавічах на Вілейшчыне можна прыйсці пагуляць з дзецьмі. Акрамя вашага гарачага жадання і добрага сэрца, патрэбная яшчэ медыцынская даведка аб тым, што вы не маеце захворванняў, якія перашкаджаюць вам мець зносіны з дзецьмі. І вядома, узгадніце свой прыезд з кіраўніцтвам.

У Радашкавіцкай школе-інтэрнаце валанцёраў заўсёды шмат. Наведванне выхаванцаў распісана ўжо да сакавіка. А вось вясной можна дамовіцца з дырэктарамі наведаць школу.

### У Маладзечне з задавальненнем адгукнуцца на канцэрт і чаяванне

Маюць практыку работы з валанцёрамі і ў маладзечанскім псіханеўралагічным доме-інтэрнаце. Праўда, добрыя справы тут часцей праходзяць у фармаце канцэртаў да пэўных дат, напрыклад, да Дня інвалідаў або сумесных чаяванняў. Сваё наведванне і фармат мерапрыемства валанцёрам варта ўзгадніць з культарганізатарам.

Валанцёрскія прапановы памыць падлогу або працерці пыл ні ў Маладзечне, ні ў Радашкавічах не задаволілі. Адказалі, што гэтым займаецца тэхнічны персанал. Дапамога ім непатрэбная, бо і самі добра спраўляюцца.

### Хочаце фізічнай працы ці здольныя зладзіць майстар-клас? Едзьце ў Валожын

А вось у тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання насельніцтва ў Валожыне працы хопіць усім, у тым ліку і фізічнай. Тут робяць вялікі рамонт у Цэнтры дзённага наведвання для інвалідаў. У лютым рамонт плануюць скончыць. Трэба будзе шмат чысціць, мыць, карацей, рабіць памяшканне чыстым і ўтульным для наведнікаў. Таму валанцёрскія рукі тут лішнімі не будуць.

Калі ж навядуць чысціню, то адміністрацыя гатовая прыняць валанцёраў нават у якасці выкладчыкаў. «Калі вы нешта ўмееце рабіць рукамі і гатовыя навучыць гэтаму нас, мы з задавальненнем павучымся», – адказалі тут.

Як бачыце, рабіць добрыя справы проста. Ва ўсялякім разе, кіраўнікі сацыяльных устаноў рэгіёна ваша жаданне гатовыя падтрымаць.

> Даведка «РГ».
> Валанцёрства (ад лацінскага – добраахвотны) – шырокае кола дзейнасці, якое ўключае традыцыйныя формы ўзаемадапамогі і самадапамогі, афіцыйную прапанову паслуг, якія ажыццяўляюцца добраахвотна на карысць грамадскасці без разліку на грашовую ўзнагароду. Першапачаткова валанцёрамі называлі выключна салдат-дабравольцаў у Італіі, Францыі, Англіі і Германіі падчас 80-гадовай і 30-гадовай войнаў. Салдат запрашалі ваяваць толькі за славу і вайсковую здабычу. Многім гэтага было дастаткова. У СССР слова «валанцёр» ужывалі рэдка, аддаючы перавагу слову «добраахвотнік». Запыт на валанцёрскую дзейнасць у сучасным яе разуменні сфарміраваўся бліжэй да 2000-х.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Як дзятва са шмат-павярховак калядаваць хадзіла

МАЛАДЗЕЧНА

На праваслаўныя Каляды да старэйшай дачкі Юлі прыйшлі сябры і запрасілі яе пакалядаваць.

Юля ўзяла дзве торбы (а раптам у адну пачастункі не ўлезуць) і пайшла па бліжэйшых дамах у нашым мікрараёне. Сябры дзеля гэтай нагоды вывучылі калядныя вершы. А Юля, дзякуючы маміным захапленням, ведала песню «На Каляды» на словы **Уладзіміра Някляева**, музыку **Змітра Вайцюшкевіча**. Гэта і склала канцэртную праграму.

Людзі з кватэр сустракалі дзяцей прыязна. Некаторыя толькі казалі, што яны каталікі і Каляды ўжо адсвяткавалі. Большасць жа слухалі дзіцячыя віншаванні і шчодра адорвалі цукеркамі, печывам, шакаладкамі, фруктамі.

– Адна жанчына паслухала віншаванні і кажа: «Ой, дзеці, я толькі прыехала, няма чаго вам даць», – расказвала пасля Юля. – Мы пайшлі на наступны паверх, а калі спускаліся назад, яна выйшла на лесвічную пляцоўку і пачаставала нас дзвюма вялізнымі шакаладкамі.

Праблему з дамафонамі і пранікненнем у пад'езды вынаходлівыя дзеці вырашалі па-рознаму. Коды ў некаторыя пад'езды ведалі, бо там жывуць сябры. Каб патрапіць у іншыя дамы, набіралі нумар любой кватэры і проста прасілі адчыніць. І ім, як ні дзіўна, адчынялі.

Другая торба Юлі таксама спатрэбілася. Пад цяжкасцю падарункаў у сяброўкі парваўся пакет, вось дачка і падзялілася. А сваю, поўную ласункаў, таксама ледзь прыцягнула.

Цікава, што якраз 7 студзеня раніцай я слухала, як на нейкай радыёстанцыі беларускі музыка **Алег Хаменка** казаў пра тое, як гэта добра, калі традыцыя калядавання з вясковых хат пераходзіць у шматпавярхоўкі...

Цяпер Юля з сябрамі ўжо пачынаюць прадумваць праграму на Вялікдзень. Абяцае і Варвара са сваёй дудкай далучыцца. Канцэртная праграма пашырыцца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У смаргонскай школе №1 адкрылі музей

СМАРГОНЬ

Музей «Наш гонар» у першай школе Смаргоні ўрачыста адкрылі 28 снежня. Чырвоную стужку перарэзалі начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама **Ігар Шчасны**, скульптар выпускнік школы **Уладзімір Церабун** і навуковы супрацоўнік Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея **Павел Картавік**.

Прысутнічалі прадстаўнікі раённага ўпраўлення адукацыі, педагогі, вучні і бацькі.

Юныя экскурсаводы распавялі пра гісторыю смаргонскай школы №1, першых дырэктараў, настаўнікаў-франтавікоў.

Асаблівае месца ў новым музеі заняла экспазіцыя пра былога выпускніка, а сёння скульптара Уладзіміра Церабуна і яго працы.

Уладзімір Церабун павіншаваў калектыў роднай школы з адкрыццём музея.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мадэрнізуюць бальніцы ў рэгіёне

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Якія аб'екты медпрызначэння ў 2019-м маюць намер узвесці, мадэрнізаваць і рэканструяваць, а будаўніцтва якіх толькі пачнуць? Пра гэта МЛЫН.ВУ распавёў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Мінскага аблвыканкама **Міхаіл Вішнявецкі**.

Запланаваная мадэрнізацыя памяшканняў першага паверха хірургічнага корпуса для ўстаноўкі рэнтгенаўскага кампʼютарнага тамографа ў Вілейскай ЦРБ і двух будынкаў Маладзечанскай ЦРБ: лячэбнага корпуса №2 пад апарат для МРТ, лячэбнага корпуса №3 пад ангіграфічны комплекс.

**Паводле mlyn.by.**

## Вілейчане і смаргонцы – сярод пераможцаў конкурсу па інфарматыцы

ВІЛЕЙКА
СМАРГОНЬ

У канцы мінулага года ў Мінскай вобласці падвялі вынікі конкурсу «Гадзіна Кода», які ладзілі на працягу снежня ў рамках штогадовай Міжнароднай акцыі вывучэння інфарматыкі.

Па выніках у намінацыі «ІТ-краіна» ўпраўленне адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама заняло другое месца.

У намінацыі «Лепшае мерапрыемства» дыплом трэцяй ступені атрымала настаўніца інфарматыкі Смаргонскай школы №5 **Тэрэса Храмянкова**, паведамілі ва ўпраўленнях.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чаму не атрымалася агульнага фотаздымка Зінаіды Бандарэнкі і Пятра Машэрава

## Ураджэнец Ашмянаў рыхтуе кнігу пра вядомага беларускага дыктара

АШМЯНЫ

**Журналіст Аляксандр Тамковіч рыхтуе да друку сваю 21-ю кнігу. Будучы твор мае назву «Дагляды Зінаіды Бандарэнкі. Мой шлях да Беларусі». Абвешчаны краўндфандынг – збор грошай на выданне кнігі на сайце talaka.org.**



Быў час, калі Зінаіда Бандарэнка прымерала мундзір капітана міліцыі.

Сёння мы гутарым са спадаром Аляксандрам пра будучае выданне.

**– Пра што будзе ваша 21 кніга?**

– Фраза «Мой шлях да Беларусі» – адказ на знакамітыя радкі верша **Ніла Гілевіча**, а «Дагляды Зінаіды Бандарэнкі» – ілюстрацыя таго, што гэты шлях быў вельмі няпросты. Цяжка паверыць, але сёлета Зінаідзе Аляксандраўне спаўняецца 80 гадоў. І ўсё ж гэта кніга зусім не «дацкая», бо ў ёй будзе вельмі шмат інфармацыі, якую немагчыма назваць святочнай.

> **Я цяпер не буду раскрываць усе сакрэты зместу. Скажу толькі, што некаторыя гісторыі, расказаныя мне гераіняй будучай кнігі, цалкам адпавядаюць густам аматараў дэтэктываў, меладрам, трагедый, камедый. Сюжэты часам былі такімі крутымі і нечаканымі, што пазайздросцілі б стваральнікі кожных «Санта-Барбар».**

**– Напрыклад?**

– Першы такі выпадак адбыўся 9 мая 1978 года. Плошча Перамогі. Ветэраны традыцыйна ўскладаюць кветкі. Як і чакалася, на імпрэзе знаходзіцца кіраўнік Кампартыі Беларусі **Пётр Машэраў**. Яго ахоўнікі не былі такімі нахабнымі, як цяпер, таму спроба «адцісНуць» ветэранаў наткнулася на фразу: «Гэта наша свята!»

Давялося Пятру Міронавічу стаць з левага боку ад вядучай. Фатограф гэта зафіксаваў, але калі з ЦК КПБ фота прынеслі Зінаідзе Аляксандраўне, Машэрава на ёй не было. Патлумачылі гэта так: «Мы яго адрэзалі. Не паложана...». Фоташопа тады яшчэ не было, таму злева засталіся толькі рукі Машэрава.

Другі выпадак адбыўся пазней.

Пасля трагічнай смерці Машэрава Кампартыю рэспублікі на тры гады ўзначаліў **Ціхан Якаўлевіч Кісялёў**, які заўчасна памёр ад анкалагічнага захворвання.

Гэта цяпер тэлевядучым проста з адзеннем, у якім яны на экране. У продажы ёсць добры выбар. Да таго ж крамы ў мэтах рэкламы ахвотна прапаноўваюць свае навінкі. Галоўнае, каб у кадр не патрапіла этыкетка, бо большасць адзення потым вяртаецца ў продаж. А раней усё было значна складаней.

Тым, хто з настальгіяй успамінае савецкія часы, на мой погляд, акрамя мільёнаў бязвінна загубленых жыццяў, нельга забываць і аб татальным дэфіцыце. Фуфайка, вядома, рэч зручная, але ў кадры ў ёй дыктары ніколі не з'яўляліся. Тады ім вопратку шылі ў атэлье Саўміна, куды завозіліся дэфіцытныя імпартныя тканіны. Дырэктар атэлье добра ведала Зіну Бандарэнку, і аднойчы, калі прыйшла прыгожая тканіна, пашыла той з яе сукенку.

Па традыцыі, якая ёсць і сёння, у любой глядацкай зале кіраўніцтву рэспублікі аддаецца шосты рад. Быў нейкі канцэрт у сталічнай філармоніі. Для таго, каб абвясціць першы нумар (як правіла, потым гэта робіцца з-за куліс) Зінаіда Бандарэнка выйшла на сцэну ў абноўцы. І адразу адчула нейкае замяшанне ў зале.

Аказалася, у жонкі Кісялёва дакладна такая ж сукенка... Скончылася ўсё амаль скандалам. Дыктараў перасталі абслугоўваць у саўмінаўскім атэлье, а дырэктара банальна звольнілі. Фотаздымак з той імпрэзы таксама будзе ў кнізе. Як і яшчэ некалькі сотняў. У гэтым плане кніга будзе больш нагадваць гэтакі фотаальманах, чым звыклае біяграфічнае выданне. Колькасць тэксту там займае амаль такую ж плошчу, што і колькасць фатаграфій. Большасць з іх ніхто ніколі не бачыў.

**– Якія яшчэ адкрыцці для сябе зробяць чытачы кнігі?**

– Напрыклад, такое, што па першым дыпломе народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка – акушэр-гінеколаг і нават удзельнічала ў прыняцці родаў. Або тое, што першы «блакітны агеньчык» дэбютаваў у Мінску, а не Шабалаўцы і быў зусім не навагодні. Што ў першы час яны праходзілі па некалькі раз на год да розных святаў, а Зінаіда Бандарэнка нават прымярала мундзір капітана міліцыі...

**– Як сёння адчувае сябе Зінаіда Бандарэнка?**

– Зінаідзе Аляксандраўне зрабілі складаную аперацыю па замене сустава пратэзам, што ў дадзеным узросце даволі распаўсюджаная з'ява. Аперацыя прайшла вельмі паспяхова. Дактары – малайцы! Усё атрымалася, як і было абяцана. На каталіцкія Каляды яе паклалі ў бальніцу, а праваслаўныя яна ўжо сустракала дома. Спецыяльна хачу падкрэсліць, што гэта не мае ніякага дачынення да кнігі. Больш за тое, Зінаіда Аляксандраўна сама забараніла гэту тэму да правядзення аперацыі рабіць публічнай. Цяпер яна аднаўляецца, рыхтуецца да прэзентацыі.



Падчас адной з імпрэзаў.

**Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі забяспечаны Аляксандрам ТАМКОВІЧАМ.**

# Што пісала пра наш рэгіён газета «Наша думка» за 1920-1921 гады

**Газета «Наша думка» выходзіла ў Вільні ад снежня 1920 да ліпеня 1921 года, пакуль яе не забаранілі польскія ўлады. Рэдактарам і выдаўцом быў пісьменнік Максім Гарэцкі. Тут пісалі пра жыццё Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. Былі навіны і з нашага рэгіёна.**



Так выглядалі Баруны ў 1915-1918 гадах, яшчэ да таго, калі пачала выходзіць у Вільні «Наша думка».

Фота upload.wikimedia.org

### Пра Маладэчна і Смургоні

Са Смаргонню і Маладзечнам звязаныя дзіцячыя ўспаміны вучня першага класа Беларускай гімназіі ў Вільні **В. Янчуковіча**. У газеце за 7 студзеня 1921 года чытаем яго матэрыял: «Я нарадзіўся ў 1907 годзе. Калі мне было восем гадоў, у наша места прыйшлі немцы і мы вымушаны былі пакінуць сваю родную вёску. Два месяцы цягаліся па палях і лясах. Пасля мы паехалі ў Маладэчна, прадалі скаціну і выехалі ў Расею. Тата мой хадзіў на работу, а я з мамай займаўся гандлем. Там мы былі тры гады. Захацелася нам на родную старонку. Вытрабавалі вагон і паехалі.

Праз некалькі часу, прыехаўшы ў Смургоні, мы паехалі ў вёску да дзядзі. Хлеба ў нас не было і трэба было есці траву. Як прыйшла польская вайна, майго тату забіў снарад. Мама ў той час была хворая. Людзей нікога не было, усе ўцяклі хавацца ў бліндажах. Так праляжаў мой тата ў гумне чатыры дні. На чацверты дзень сталі страляць трохі радзей. Людзі сабраліся, абмылі, выкапалі дол і павезлі хаваць. Я вельмі плакаў і не верыў, што тата памёр. Як мама папраўлялася, мы пераехалі ў сваю вёску ў бліндаж, дзе жылі і да гэтага часу. Цяпер я вучуся ў Вільні ў беларускай гімназіі».

### Што прадавалі на таргах

А вось што ў тым жа нумары пісаў **Янка Канцавы** з мястэчка Дзявенішкі Ашмянскага павета: «У нашым мястэчку пакуль ціха і спакойна. Кожны чацвер бываюць таргі. На таргах ёсць усяго чаго хочаш, а найболей бывае коней. Ёсць і рагатай скаціны, але ў гэты чацвер не пусцілі на торг кароў стражнікі, бо ў нас хварэе быдла.

Восьмага снежня быў загарэўся наш касцёл апоўдні а дванаццатай. Запаліўся ад таго, што не патушылі кадзіла і павесілі ў куце каля сухіх кветак. Каб не тарговы дзень, то наўрад і атушылі б. З рынку былі забраны ўсе вёдры і цабры насіць ваду. Найболей craраліся тушыць жыды: яны прыцеглі пажарную кішку, залілі агонь. Шкода невялікая.

У нашым мястэчку найбольш жыды крамнікі і так гандляры ездзяць да Вільні па тавар. І кожын раз хто б ні паехаў, з кожным хоць што ды зробіцца ў дарозе. Адзін наш крамнік ехаў да Вільні на гэтым тыдні. На яго напалі нейкія бандыты ў рольскім убранні, забралі шэсць тысяч польскіх марак, збан мёду, цэлы зад мяса, а яшчэ ў дадатак добра надавалі прыкладам. І прыехаў наш крамнік дадому з падбітым вокам».

### Цяжкасці беларускай школы ў Палачанах

У газеце ад 22 студзеня ёсць навіна з мястэчка Палачаны. Аўтар пад псеўданімам **Палачанскі** піша: «У першай палавіне лістапада 1920 года ў нашым мястэчку адчынілася беларуская пачатковая школа. Але вельмі многа цяжкасцей прыйшлося на долю вучыцеля **К. Піліповіча**, каб яна засталася існуючай. Калі перад адкрыццём вучэння ў наша мястэчка з'явіўся рэферэнт беларускага аддзела дэпартамента асветы **Я. Станкевіч** і папрасіў згукаць агульную зборку палачанскіх грамадзян, то валасны пісар **К-ч** згукаў некалькі людзей – вядомых праціўнікаў навукі па-беларуску, і нават некалькі з іх былі не грамадзяне нашай воласці.

На зборцы некаторыя крычалі, што беларусам нашым не трэба роднае мовы вучыцца, бо яна брыдкая. А адзін малады хлопец сказаў, што ў нас няма і Беларусі, чым выклікаў смех. Дзякуючы таму, што на зборку паспела моладзь і загаманіла «хочам школы на роднай мове» і зараз жа напісала заявы, школа адчынілася ў валасным школьным будынку.

Але што прыйшлося перажыць вучыцелю: сталоў і лавак у класе ніякіх, печы паруханыя. Без дроў прыйшлося жыць каля трох тыдняў, спаць пры двух градусах ніжэй за нуль. Дзеці пачалі прыносіць па паленцу дроў, але іх не хапала на вялікі ахалоджаны будынак. Людзі мала чым маглі дапамагчы.

**І калі б не старанне нашага вучыцеля і палачанскага грамадзяніна Барыса Тараскевіча, шчырага беларуса, то школа б не ўтрымалася. Б. Тараскевіч узрухаў сялян прынесці ў школу сталоў і лавак, паўстаўляў шыбы ў вокны, зрабіў класную дошку, знайшоў муляра.**

І хаця ворагі не перасталі падкопвацца пад школу, але грамадзяне ўжо болей верылі вучыцелю. І наша школка стала жыць, маючы 78 вучняў».

### Навіны з мясцовых кааператываў

У нумары, што выйшаў праз тыдзень, 29 снежня, пішуць пра тое, што яўрэяў у Ашмянах спрабавалі далучыць да земляробства «У Ашмянах грамадзянін Фэйгін арганізаваў сялянска-гаспадарчы вытворчы кааператыў. Запісаліся сябрамі 35 асоб. Хочуць абрабляць сваімі сіламі агарод у восем-дзесяць дзесяцін. Мэта кааператыву – прыцягнуць яўрэяў да земляробства. Дапамогу кааператыву дала яўрэйская арганізацыя »Орт« – дзвесце тысяч марак», – пішуць у рубрыцы «З беларускага жыцця».

А вось у гэтай жа рубрыцы – навіна з Баруноў, што на Ашмяншчыне: «Прадстаўнікі Барунскага кааператыву звярнуліся да ашмянскага старасты па дазвол на прывоз солі для кааператыву. Староста адмовіў з той прычыны, што для кааператыву ўжо ўзяў дазвол і прывёз солі пан Волністы. Высветлілася, што пан Волністы ніякага даручэння не меў, а прывезеную соль прадаў сялянам па спекулятыўнай цане».

### Што пісалі пра Будслаў і Копцевічы

Пра Будслаў пішуць наступнае: «Гэта мястэчка і ўся ваколіца тутэйшая нядаўна была прыгожым месцам. Мястэчка пачало цвісці, была адчыненая гімназія… Наогул, наша ваколіца дала многа працаўнікоў бацькаўшчыне, патрыётаў, стала вядомым месцам ледзь не па ўсёй Беларусі.

Цяпер гэтае мястэчка і ўсе вёсачкі, якіх спаткала роўная бяда-вайна, – мёртвыя. Гэта мясцовасць, нядаўна жывая, шчаслівая, абярнулася ў бедную, маркотную, няшчасную».

18 лютага 1921 года ў рубрыцы «Правінцыяльны аддзел» аўтары казалі добрыя словы пра вёску Копцевічы. Цяпер гэта тэрыторыя Смаргонскага раёна. «Сярод многіх іншых вёсак у Віленшчыне трэба абавязкова адзначыць Копцевічы. Вёска гэтая збоку беларускасці адна з лепшых. Тутэйшыя сяляне, як могуць, падтрымліваюць беларускую справу і шчыра жадаюць чуць сваю родную беларускую мову ў школе, касцёле, валасці і агулам ва ўсіх публічных установах.

**Апрача таго, тутэйшыя земляробы даволі ясна ведаюць, што з зямлёй павінна стацца. Для іх ясна, што зямля ўсякая, як панская, так і іншая, павінна адысці да таго, хто яе арэ, барануе, хто яе сваім потам палівае.**

Цяпер у гэтай вёсцы ёсць школка. У ёй вучыцелем **Касэвіч**. Ён стараецца развіваць душы беларускіх дзетак. Нядаўна беларуская моладзь адыграла камедыю «Міхалка». Ігра была, як на вясковыя сілы, дужа добрая. Трэба, каб Касэвіч часцей ставіў такія рэчы і каб вучыў дзетак беларускім вершам, апавяданням, байкам, гісторыям, помнячы, што ў гэтым праўдзівая карысць для маладой беларускай душы».

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## КАЛЯНДАР

### 11 СТУДЗЕНЯ

**1924.** 95 гадоў назад у Вільні выйшаў першы нумар газеты «Беларуская доля», органа Беларускага Пасольскага Клуба (выдавалася да 22 мая 1925 г., выйшла 36 нумароў, забароненая польскімі ўладамі). Рэдактар **Антон Пракапенка.**

### 13 СТУДЗЕНЯ

**1593.** У Вішневе Валожынскага раёна памёр (паводле іншых звестак быў забіты) **Сымон Будны,** мысляр эпохі Адраджэння, асветнік, друкар. Нарадзіўся каля 1530 года.

**1654.** 365 гадоў назад памёр **Януш Кішка,** вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся ў 1586 годзе.

**1706.** Пачалася двухмесячная аблога шведскім войскам Гродна, у выніку якой расійскі гарнізон адступіў, а шведы занялі горад.

**1885.** Памёр **Іван Хруцкі,** мастак.

### 14 СТУДЗЕНЯ

**1893.** Нарадзілася **Канстанцыя Буйло** (па мужу Калечыц; Вільня), паэтэса.

**1916.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Чарняўскі** (засц. Амбружын, цяпер Ашмянскі раён), каталіцкі святар, перакладчык літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**1927.** Нарадзіўся **Янка Філістовіч** (в. Паняцічы, цяпер Вілейскі раён), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Расстраляны саветамі ў 1953 годзе.

### 15 СТУДЗЕНЯ

**1582.** У г. Ям-Запольскі падпісаны мір на 10 гадоў паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай, які, фактычна, скончыў Лівонскую вайну.

**1926.** У Заходняй Беларусі выйшаў першы нумар сатырычнага часопіса «Маланка» (выдаваўся ў Вільні да 26 снежня 1928 г., выйшлі 43 нумары).

**1927.** Памёр **Давід Яноўскі,** адзін з наймацнейшых шахматыстаў свету канца 19 – пачатку 20 стагоддзя, ураджэнец Ваўкавыска, які з 23 гадоў жыў у Францыі.

**1979.** 40 гадоў назад памёр **Алесь Якімовіч,** дзіцячы пісьменнік, паэт. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**1994.** 25 гадоў назад памёр **Генадзь Каханоўскі,** гісторык, краязнавец, літаратуразнавец. Пахаваны ў в. Насілава Маладзечанскага раёна.

**1994.** У Мінск з афіцыйным візітам прыехаў прэзідэнт ЗША **Біл Клінтан.** Гэта быў першы прыезд кіраўніка ЗША ў незалежную Беларусь.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



# Каляндар канфесій на 2019 год

## Праваслаўны каляндар

28 красавіка – Светлае Уваскрэсенне Хрыстова. Вялікдзень

**Двунадзясятыя непераходныя святы**

7 студзеня – Нараджэнне Хрыстова
19 студзеня – Хрышчэнне Гасподняе
15 лютага – Стрэчанне Гасподняе, Грамніцы
7 красавіка – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы
19 жніўня – Праабражэнне Гасподняе
28 жніўня – Успенне Прасвятой Багародзіцы
21 верасня – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга
4 снежня – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы

**Двунадзясятыя пераходныя святы**

21 красавіка – Уваход Госпада ў Іерусалім
6 чэрвеня – Узнясенне Гасподняе
16 чэрвеня – Дзень Святой Тройцы. Пяцідзясятніца

**Вялікія святы**

14 студзеня – Абразанне Гасподняе
7 ліпеня – Нараджэнне Іаана Прадцечы
12 ліпеня – Святых апосталаў Пятра і Паўла
11 верасня – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы
14 кастрычніка – Пакроў Прасвятой Багародзіцы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга

**Царкоўныя мнагадзённыя пасты**

11 сакавіка-27 красавіка – Вялікі пост
24 чэрвеня-11 ліпеня – Пятроў пост
14-27 жніўня – Успенскі пост
28 лістапада 2019 г. – 6 студзеня 2020 г. – пост перад Нараджэннем Хрыстовым

**Царкоўныя аднадзённыя пасты**

**Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усёедных тыдняў і Каляднага перыяду**

18 студзеня – Навячэр'е Богаяўлення
11 верасня – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга

**Усёедныя дні**

(па серадах і пятніцах посту няма)
7-17 студзеня – Калядны перыяд
17-23 лютага – Мытара і фарысея
4-10 сакавіка – Сырны (Масленічны)
28 красавіка-4 мая – Велікодны (Светлы)
16-22 чэрвеня – Троіцкі

Трапеза ў святы

Згодна з царкоўным статутам, у святы Нараджэння Хрыстова і Богаяўлення, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, посту няма. У Навячэр'е Нараджэння Хрыстова, Навячэр'е Богаяўлення, у святы Узвіжання Крыжа Гасподняга і Усекнавення галавы Іаана Прадчечы дазваляецца ежа з алеем. У святы Грамніцы, Праабражэння Гасподняга, Успення, Нараджэння і Пакрова Прасвятой Багародзіцы, Увядзення Яе ў храм, Нараджэння Іаана Прадцечы, апосталаў Пятра і Паўла, Іаана Багаслова, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, а таксама ў перыяд ад Вялікадня да Тройцы ў сераду і пятніцу, дазваляецца рыба.

**Дні асаблівага памінання памерлых**

2 сакавіка – Субота мясапусная
23 сакавіка – Субота 2-га тыдня Вялікага посту
30 сакавіка – Субота 3-га тыдня Вялікага посту
6 красавіка – Субота 4-га тыдня Вялікага посту
7 мая – Радаўніца
9 мая – памінанне загінулых воінаў
15 чэрвеня – Субота Троіцкая
2 лістапада – Субота Дзмітрыеўская

**Не праводзіцца вянчанне**

Напярэдадні серады і пятніцы ўсяго года (г.зн. па аўторках і чацвяргах)
Напярэдадні нядзельных дзён (г.зн. па суботах)
Напярэдадні двунадзясятых, храмавых і вялікіх святаў
На працягу пастоў Вялікага, Пятрова, Успенскага і посту перад Нараджэннем Хрыстовым
На працягу Каляднага перыяду
На працягу Сырнага тыдня (Масленіцы), пачынаючы з Нядзелі мясапуснай (3 сакавіка), і ў Нядзелю сырапусную (10 сакавіка)
На працягу Велікоднага (Светлага) тыдня
У дні і напярэдадні Усекнавення галавы Іаана Прадцечы (11 верасня) і Узвіжання Крыжа Гасподняга (27 верасня)

## Каталіцкі каляндар

Кожны католік абавязаны ўдзельнічаць у Святой Імшы **кожную нядзелю**, а таксама ў наступныя ўрачыстасці і святы:

1 студзеня – Найсвяцейшай Багародзіцы Панны Марыі
6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі)
19 сакавіка – Дзень Святога Юзафа
30 мая – Унебаўшэсце Пана
20 чэрвеня – Цела і Крыві Хрыста (Божага Цела)
29 чэрвеня – Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла
15 жніўня – Успенне і Ушэсце Панны Марыі
1 лістапада – Дзень усіх святых
8 снежня – Дзень бязгрэшнага зачацця Панны Марыі
25 снежня – Нараджэнне Пана

**Пераходныя святы (кожны год з новай, пераменнай, рухомай датай)**

6 сакавіка – Папялец, пачатак Вялікага посту. Адзначаецца за 45 дзён (1,5 месяца) да Вялікадня. У гэты дзень прапісваецца строгі пост. Адпавядае праваслаўнаму чыстаму панядзелку
14 красавіка – Пальмавая (Вербная) нядзеля
21 красавіка – Вялікдзень
30 мая – Унебаўшэсце Хрыстова (Унебаўшэсце Пана), 40-ы дзень пасля Вялікадня
9 чэрвеня – Пяцідзясятніца (Спасланне Духа Святога), 7-я нядзеля пасля Вялікадня
20 чэрвеня – Найсвяцейшае Цела і Кроў Пана (чацвер, 11-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
1 снежня – першая нядзеля Адвенту

**Непераходныя святы**

1 студзеня – Найсвяцейшай Багародзіцы Панны Марыі
6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі)
2 лютага – Ахвяраванне Пана
19 сакавіка – святога Юзафа
25 сакавіка – Звеставанне Пана
24 чэрвеня – Нараджэнне Святога Яна Хрысціцеля
29 чэрвеня – святых апосталаў Пятра і Паўла
2 ліпеня – Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай
6 жніўня – Перамяненне Пана
15 жніўня – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі
14 верасня – Узвышэння Святога Крыжа
1 лістапада – Усіх Святых
1 лістапада – Усіх Святых – свята ўсяго трыумфуючага Касцёла
2 лістапада – усіх памерлых вернікаў
8 снежня – Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі
25 снежня – Нараджэння Пана

**Памятныя дні**

26 ліпеня – Святыя Іаакім і Ганна, бацькі Найсвяцейшай Панны Марыі
7 кастрычніка – Найсвяцейшая Панна Марыя Разарыя
2 лістапада – Дзень памінання памерлых
21 лістапада – Увядзенне Багародзіцы ў храм
29 чэрвеня – Непарочнае Сэрца Панны Марыі (субота, 20-ы дзень пасля Пяцідзясятніцы)

Пасты і посныя дні

6 сакавіка-20 красавіка – Вялікі пост
1 снежня – першая нядзеля Адвента. Адвент – час чакання, які папярэднічае святу Нараджэння Езуса, падчас якога вернікі рыхтуюцца да свята
Пятніцы года (за некаторымі выключэннямі)
Устрыманне ад ежы перад прыняццем Прычасця – Еўхарыстычны (літургічны) пост

## Будыйскі каляндар

12 студзеня – Дзень Бодхі
21 студзеня – Махаянскі Новы год
4 лютага – Рытуал ачышчэння (Дугжууба)
5 лютага – Тыбецкі Новы год (Лосар)
5 лютага – Будыйскі Новы год (Сагаалган)
5 лютага – 15 цудаў Буды (Монхам Чхенма)
15 лютага – Дзень зыходу ў Нірвану буды Шак'ямуні (Парынірвана)
19 лютага – Макха Буча
19 лютага – Сангхі
19 лютага – Чотрул Дзючэн
21 сакавіка – Дзень нараджэння Бодхісатвы Авалакіташвары
13 красавіка – Тайскі Новы год (Сонгкран)
19 красавіка – Тхеравадзінскі Новы год
19 красавіка – Свята Калачакры
11 мая – Дзень нараджэння Буды
19 мая – Дзень нараджэння, прасвятлення і зыходу ў Нірвану Буды (Весак)
22 мая – Дзень пахоты
17 чэрвеня – Посан
17 чэрвеня – Дзень ачышчэння (Дзамлінг Чызанг)
5 ліпеня – Кругазварот Майтрэі (Майдары-Хурал)
6 ліпеня – Дзень нараджэння Далай-ламы
11 ліпеня – Дзень нараджэння Гуру Рынпочэ (Падмасамбхавы)
17 ліпеня – Дні памяці Архатаў (Найдані-Хурал)
17 ліпеня – Васа
17 ліпеня – Дзень Дхармы (Асала)
15 жніўня – Фестываль галодных духаў
15 жніўня – Дзень памінання памерлых (Уламбана)
15 жніўня – Свята Зуба Буды (Асола Перахара)
14 кастрычніка – Каціна
14 кастрычніка – Паварана
19 кастрычніка – Сыходжанне Буды на Зямлю (Лхабаб Дуйсэн)
12 лістапада – Дзень Абаронцаў Вучэння (Балдан Лхамо)
12 лістапада – Свята Анапанасаці
12 лістапада – Лой Кратхонг
16 лістапада – Шэсце сланоў
21 лістапада – Свята тысячы лампад (Зула Хурал)

## Мусульманскі каляндар (1440-1441 гг. па Хіджры)

8 лютага – пакуты Фацімы. У гонар дачкі прарока
7 сакавіка – ноч Рагіб
14 сакавіка – Хіджра ў Эфіопію
20 сакавіка – Наўруз
3 красавіка – Ісра і мірадж (начное падарожжа прарока і ўзнясенне прарока)
30 красавіка – ноч Бараат
21 красавіка – Дзень нараджэння імама Махдзі
6 мая – Умра – малое паломніцтва
6 мая – Рамадан, пачатак мусульманскага посту
22 мая – Бітва пры Бадры
31 мая – Ноч магутнасці і прадвызначэння
11 жніўня – Дзень стаяння на гары Арафат
12 жніўня – Свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам. Заканчэнне вялікага паломніцтва ў Мекку
1 верасня – пачатак Новага, 1441 года па Хіджры
27 кастрычніка – Дзень смерці Прарока Мухамада
9 лістапада – Дзень нараджэння Прарока Мухамада (Маўлід ан-Набі)

## Іудзейскі каляндар (5779-5780 гг.)

27 студзеня – Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту
21 студзеня – Ту бі-Шват, Новы год дрэў
20 сакавіка – пост Эстэр
21 сакавіка – Пурым, свята выратавання яўрэяў у Персідскім заліве
Ад вечара 19 красавіка да вечара 27 красавіка – Песах, іудзейскі Вялікдзень
2 мая – Йом ха-Шоа, Дзень Катастрофы і Гераізму
19 мая – Песах Шані
9 чэрвеня – Шавуот, свята даравання Торы
11 жніўня – Ціша-бэ-Ав, пост 9 Ава. Дзень смутку і жалобы
30 верасня – Рош а-Шана, Новы год
9 кастрычніка – Ём-Кіпур. Дзень пакаяння і малітвы
14 кастрычніка – Сукот
21 кастрычніка – Шміні-Ацэрэт
22 кастрычніка – Сімхат-Тора
23 снежня – Ханука
Усе яўрэйскія святы пачынаюцца напярэдадні ўвечары



Фота Уладзіміра АСТАХНОВІЧА.

# Лыжы, цюбінгі, канькі: што трэба ведаць, каб зімовы адпачынак не скончыўся трагедыяй

**Сёлетняя зіма ў Беларусі палохае навінамі пра трагедыі падчас катання са снежных горак на цюбінгах. А якая сітуацыя з дзіцячым зімовым траўматызмам у Маладзечне і пра што трэба ведаць бацькам, якія адпраўляюць дзяцей на горку з цюбінгам, нам распавёў доктар-траўматолаг Аляксандр Запрудскі з Маладзечна.**

## І ўсё ж летам траўмаў больш, чым зімой

Аказваецца, колькасць траўмаў, якія дзеці атрымліваюць зімой, пры ўсёй разнастайнасці і небяспечнасці снежных забаў, меншая, чым летам. Усё ж летам – тры месяцы канікулаў і дзеці куды даўжэй знаходзяцца без бацькоўскага нагляду. Нават двухтыднёвы дзіцячы адпачынак зімой не перакрывае па колькасці лета.

З якімі ж пашкоджаннямі ў дзяцей часцей за ўсё сутыкаюцца медыкі зімой? Перш за ўсё, перыферычныя траўмы, ад якіх церпяць суставы рук і ног, – пашкоджанні передплечча і галёнкавага сустава. Вінаваты ў гэтым галалёд.

Пераважна звяртаюцца з ударамі, расцяжэннем звязак, пераломамі. Сюды ж дадаюцца раны, атрыманыя падчас падзення. Аднак сёлета, па словах доктара, вялікага ўсплёску галалёдных траўмаў сярод дзяцей няма.

## Траўмаў на каньках менш, бо ёсць лядовая арэна

У Маладзечне ёсць лядовая арэна. Таму з пашкоджаннямі, атрыманымі падчас катання на каньках, звяртаюцца значна радзей, чым у іншых гарадах рэгіёна.

> **– На лядовай арэне ўсё адносна бяспечна і арганізавана. Няма стыхійнасці, – кажа Аляксандр Мікалаевіч. – А значыць, выйсці адтуль з пераломам або расцяжэннем куды менш шанцаў.**

Таму пераломы ад хакея і фігурнага катання ў Маладзечне – адзінкавыя.

Сёлета ёсць ужо перелом, атрыманы на лыжах. Дзяўчынка-падлетак каталася з горкі. Пяць разоў з’ехала добра, а шосты раз скончыўся пераломам нагі. Наперадзе – працяглае лячэнне і навучанне дома.

## Гэтыя жахлівыя цюбінгі

Сёлета шмат жахлівых навін пра цяжкія калецтвы і нават смерці, што здараюцца падчас катання на цюбінгах – надзіманых санках, або «бубліках», «пончыках», «ватрушках», як іх яшчэ называюць.

Што думае доктар пра катанне на гэтай прыладзе?

> **– Няшчасныя выпадкі з цюбінгамі здараюцца на непадрыхтаваных пляцоўках і калі дзеці катаюцца без нагляду дарослых, – кажа Аляксандр Запрудскі.**

Вельмі важна, лічыць доктар, устанавіць узроставае абмежаванне ў карыстанні цюбінгам. Ні ў якім разе нельга катацца на гэтай прыладзе дзіцяці, якому няма 12-14 гадоў. Цюбінг развівае вялікую хуткасць, ім немагчыма кіраваць, кантраляваць сітуацыю. Самае страшнае можа здарыцца падчас удару ў нейкі прадмет. Напрыклад, слуп або камень.

Нядаўна да доктара ўжо звярталіся бацькі, сын якіх катаўся на цюбінгу ў Маладзечне, падскочыў на каменьчыку і крыху стукнуўся аб нешта. На шчасце, траўма была не з сур’ёзных – удар.

## Дзеці захапляюцца гульнёй і не заўважаюць, што ім холадна

З абмаражэннямі – тыповымі сезоннымі пашкоджаннямі – сёлета не звярталіся. А ўвогуле, гэта траўма больш характэрная для дзяцей шасці-васьмі гадоў.

> **Менавіта ў гэтым узросце можна так захапіцца гульнёй, што не заўважыш холаду. Пакуль гуляеш, быццам бы ўсё добра, а дома назаўтра адчуваецца боль, пачынае пячы.**

Невялікія пашкоджанні ад марозу могуць быць у дзяцей да года, калі бацькі доўга гуляюць з імі на вялікім марозе. Тады назаўтра заклапочаныя бацькі ідуць да доктара, пытаюцца пра пачырваненне на носіку або шчочках дзіцяці. І ўсё ж цяжкіх абмаражэнняў са значнымі пашкоджаннямі тканак, як гэта бывае ў дарослых, у дзяцей не сустракалася.

## Насталі халады – стала больш апёкаў

Звычайна павышаецца зімой колькасць апёкаў у маленькіх дзяцей. Дарослыя, асабліва ў прыватным сектары, пачынаюць грэць шмат вады.

А цікаўныя дзеці, якім часцей адзін-тры гады, могуць перакуліць на сябе ёмістасць з кіпенем. У такіх выпадках апёкі бываюць досыць цяжкія.

## 2019 год сустрэлі без траўмаў ад петардаў

31 снежня і 1 студзеня сёлета прайшлі спакойна. А ўвогуле ў гэтыя святочныя дні здараюцца траўмы ад піратэхнікі. Часцей церпяць пальцы, радзей можна атрымаць апёк вачэй ад полымя. Летась у маладзечанскую бальніцу прывозілі вілейскага хлопчыка, што пашкодзіў пальцы петардай.

– Як бачыце, сёлетняя зіма ў Маладзечне больш-менш спакойная адносна дзіцячых траўмаў. І ўсё ж бацькам не варта расслабляцца, – падсумаваў Аляксандр Запрудскі.

## Пад наглядам бацькоў, у светлы час, на бяспечных горках

А каб зімовы адпачынак праходзіў весела і без непрыемнасцяў, вось вам некалькі парадаў ад доктара:

- дзеці павінны катацца пад наглядам дарослых;
- плануйце зімовыя пакатушкі на светлы час;
- катайцеся на спецыяльна падрыхтаваных пляцоўках;
- выкарыстоўвайце бяспечныя прылады для катання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Навошта паказваць, што ў кашальку, падчас гутаркі з албанцамі

## Маладзечанец расказаў аб уражаннях ад Албаніі

**Самы час пачынаць планаваць падарожжы на новы год. Магчыма, вам дапаможа вызначыцца гэты аповед.**

МАЛАДЗЕЧНА

Запаведнік сацыялізму, цыганскі рай, касаўскія бандыты і бетонныя бункеры па ўсёй краіне. Усё гэта я чуў пра Албанію ад «дасведчаных» калегаў, чэрпаў з «аўтарытэтных» сайтаў. Але вырашыў, лепш паглядзець самому.

Рашэнне прынятае, і вось серабрысты самалёт прызямляецца ў Цівеце, што ў Чарнагорыі. Але гэта не канчатковы пункт прызначэння. Жаданая мэта – Албанія. Так краіну называюць толькі замежнікі. А жыхары горда клічуць Шкіперыяй – краінай арлоў.

Шлях ад Цівата да чарнагорска-албанскай мяжы заняў некалькі гадзін па маляўнічых месцах. Горы, цясніны, пакрытыя яркай зелянінай схілы з каровамі і авечкамі, пухнатыя аблокі, захапляльная дарога-серпанцін.

На мяжы з аўтобуса не выходзім. Праз пару хвілін у дзвярах з'явіўся ўсмешлівы смуглы чалавек у чорнай уніформе – прадстаўнік албанскіх уладаў. Пажартаваў, але ніхто нічога не зразумеў, таму пасмяяўся адзін. Сабраў пашпарты, знік, праз пару хвілін з'явіўся, зноў пажартаваў і пасмяяўся.

А мы нарэшце апынуліся ў Албаніі.



Адзін з бункераў у Албаніі

Фота poznamka.ru.

### У краіне рэдка падманваюць

Першы санітарны прыпынак – у прыдарожнай кавярні ля мяжы.

Пра англійскую мову ў гэтай краіне можна забыць. Для зносін падыходзяць жэсты, міміка і дэманстрацыя змесціва кашалька.

Мясцовай валюты – лек – у нас няма. Разлічваемся еўра па няясным курсе, атрымліваем рэштай манеткі незразумелай вартасці. Пазней аказалася, што хлопцы ў кафэ нас не падманвалі, курс быў правільны.

У краіне падманваюць рэдка. Адбіваецца «энвераўскае» мінулае, калі амаль за ўсе правіны пакаранне было адно – расстрэл.

Упершыню абмянялі валюту не ў «абменніку», не ў банку, не на пошце, а на запраўцы. У чалавека, які запраўляў наш мікрааўтобус. За сто долараў мне даюць амаль 11 тысяч лек. Хаця з доларамі ў краіну лепш не ехаць, да іх у насельніцтва ад часоў Ходжы засталася пэўная прадузятасць. А вось еўра бяруць усюды і вельмі ахвотна.

### Рэшткі бункераў, «Мерседэсы» і горныя пейзажы

Перакусваем на запраўцы мясцовым «фастфудам» – петулай. Гэта бліны, якія так любяць падаваць на сняданак разам з варэннем або джэмам. І бюрэкам – рулетам з ялавічнага фаршу, рысам і зелянінай.

Адпраўляемся далей. Горныя пейзажы плаўна пераходзяць у раўніну, якую перасякаюць горныя паўнаводныя рэкі. Шукаем сляды постсацыялістычнага запусцення, але не знаходзім. Дарога да сталіцы Албаніі – Тыраны – гэта дагледжаныя палі, шмат аліўкавых дрэў, новыя домікі, шмат будоўляў.

Гід звяртае ўвагу на рэшткі бункераў, якія засталіся ад часоў ізаляцыі Албаніі. Такіх бункераў па краіне ў часы Энвера Ходжы пабудавалі больш за 700 тысяч. Кожны быў разлічаны на чатыры-шэсць чалавек, хоць самога жылля ў тыя гады ў краіне не хапала.

**Амаль усе аўтамабілі, якія трапляюць у поле зроку, – «Мерседэсы» розных мадэляў і гадоў выпуску. Албанію так часам і завуць – краіна Мерседэсаў.**

Гэта зноў спадчына былых часоў, калі ўся краіна перасоўвалася выключна на осліках. А менавіта «Мерседэс» быў здабыткам нешматлікай партыйнай эліты.

### Абсыпаюць грашыма маладых

Жыхароў Шкіперыі можна параўнаць з арламі. Горды, але добры народ, чыю гасціннасць можа параўнаць з грузінскай. На сямейныя ўрачыстасці менш за 300 гасцей не збіраюць. На вяселлях не проста дораць грошы, на працягу ўсяго свята імі абсыпаюць маладых. А вяселле доўжыцца ад серады да нядзелі.

Дзяўчына павінна выйсці замуж да 25 гадоў, мужчына ажаніцца да 35. У сям'і без кармільца старэйшыя сёстры выракаюцца ад шлюбу і выконваюць ролю мужчыны. Носяць мужчынскую вопратку. Іншыя ставяцца да іх, як да мужчын. У Албаніі такі звычай сустракаецца і цяпер.

У сярэднім у сем'ях па трое дзяцей, разводаў мала. Калі жаніх у першы раз аказваецца ў хаце нявесты, ён праходзіць скрозь строй сваякоў наканаванай. І тыя трохі б'юць жаніха – прыбіваюць да дома і сям'і, каб не гуляў. Любяць, калі нараджаюцца дзяўчынкі, але і спадчыннік хлопчык павінны быць абавязкова. Калі нараджаецца дзіця, у радзільню ідуць усе, хто быў на вяселлі. Пакалашмаціць дзяцей за шчокі – нармальна.

### Укладаюць грошы ў бізнес на радзіме

Пры сустрэчы албанцы абдымаюцца і цалуюцца тры разы. Госць заўсёды «ў законе». Але калі неспадзявана пакрыўдзіў албанца, аб далейшых зносінах можна забыць. Помсціць не будуць, перастануць заўважаць.



А яшчэ падалося, што гэта зацятая нацыя. Калі нечага захочуць, то любым коштам, нават на шкоду іншым пачынанням, выканаюць.

Тут вельмі моцныя родавыя сувязі. Албанцы шануюць старых, паважаюць старэйшых.

Тыя, хто мае працу за мяжой, заробленае ўкладаюць у бізнес на радзіме. Таму так хутка змяняецца краіна, якая яшчэ нядаўна была адной з самых бедных у Еўропе.

### У Албаніі ёсць «зваротны» вадаспад

Краіна лічыцца мусульманскай, але ўсе мячэці сучаснай пабудовы. Да гэтага ў Албаніі быў ваяўнічы атэізм, знішчалі святароў. Пашчасціла выжыць толькі аднаму манаху – сябру дзяцінства Энвера Ходжы.

Тут унікальная кухня, якая спалучае ў сабе міжземнаморскую і ўсходнюю.

Албанія – выдатная краіна для адпачынку. Яе берагі абмываюць два моры – Іанічнае і Адрыятыка. Курорты і пляжы ёсць на любы густ: залацісты пясок Дурэса, крышталёва чыстыя воды Улеры і «сейшэльскія» віды Ксаміля. Шмат месцаў для экскурсій – ад руін крэпасцяў часоў Кастрыёці да ўнікальных прыродных аб'ектаў. Напрыклад, «зваротны» вадаспад «Блакітнае вока».

**Павел РАФЕЕНКА,**
**Маладзечна.**

Даведка «РГ»: Энвер Халіль Ходжа – албанскі палітычны дзеяч сацыялістычнай Албаніі ў 1944-1985 гадах.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
2. На працягу амаль усяго 20 стагоддзя гэты напой быў забаронены ў Ісландыі. Гэты напой – нацыянальны для Даніі, а ісландцы вырашылі, што піць яго непатрыятычна.
3. Сталовы прыбор.
7. Радавы ваеннаслужачы сухапутнага войска.
8. Металічны прыбор для кіпячэння вады з награвальнай трубой усярэдзіне.
9. Скошаная і высушаная трава, якая ідзе на корм жывёле.
10. У пачатку 20 стагоддзя ў ЗША было папулярна транспартаваць дзяцей праз гэту ўстанову. Таму што аплата за яе паслугі была нашмат танней, чым білет на цягнік.
12. Вучэбная або праверачная пісьмовая работа па правапісе.
13. У савецкі час на бутэльках малочнай прадукцыі не было этыкетак. Іх адрознівалі па колеры фольгі, якой закаркоўвалі бутэльку. Пад фольгай срэбранага колеру было малако, ружовага – ражанка. А што было пад зялёным коркам?
15. Перакананне ў рэальным існаванні звышнатуральных сіл.
16. Металічныя даспехі, якія ў старажытнасці засцерагалі воіна ад удараў халоднай зброі, а ў сярэднія вякі – і ад агнястрэльнай.
17. Старажытнае германскае племя, якое насяляла паўночна-заходнюю Еўропу і Брытанію.
18. Кансерваваная страва з чырвонага перцу і памідораў.
21. Вонкавая абалонка плода, семя.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Што трэба прыгатаваць, калі жыццё падкідае толькі адны лімоны.
3. Вольны верш.
4. Падчас беларускага абраду хрэсьбінаў госці дзялілі бабіну кашу. У гэты час прыходзіў чалавек у вобразе яго і прыносіў бацькам калыску. Хто гэта?
5. Навукоўца і пісьменнік-фантаст Артур Кларк сцвярджаў, што ў 2000 годзе людзі змогуць пачаць будаваць касмічны ліфт і закончаць працу праз 50 год пасля таго, як закончаць …
6. Мясцовая разнавіднасць мовы; гаворка.
8. Прылада, якой сякуць і склюдуюць, у выглядзе насаджанага на тапарышча шырокага прадаўгаватага кліна з лязом з аднаго боку і абухом з другога.
11. У час свята Камаедзіцы, калі праводзілі зіму, якая паспела надакучыць, абавязкова пяклі аладкі. Яны сімвалізуюць тое, па чым больш за ўсё сумавалі зімой.
12. Жывёліна, якая есць не расліны.
14. Галандскі мастак Артур Ласкус арганізаваў выставу сваіх прац. Там наведнікі маглі ацаніць яго творчасць, але атрымалі сінякі і ўдары. Што маляваў мастак?
15. Будынак для пасажыраў на чыгуначнай станцыі, прыстані.
17. Умоўны знак.
19. Спачатку гэтага наваўвядзення моцна баяліся – меркавалі, што яно распужае дамашніх жывёл, негатыўна адаб'ецца на надоях малака. У Беларусі яно працуе ад 1862 года.
20. Захапляючы, зачароўваючы сваім выглядам, прыцягваць да сябе.
22. Вялікі выраз у верхняй частцы жаночага адзення.

## Адказы на крыжаванку з №1

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Лозунг. 3. Катана. 4. Факел. 5. Сусед. 8. Сырнік. 9. Сцежка. 10. Думка. 12. Валожын. 13. Фантан. 14. Дыплом. 17. Дэбют. 20. Пацукі. 21. Ліхтар. 22. Дэталь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Люлька. 2. Луста. 4. Ферма. 6. Лекар. 7. Дзяржынск. 8. Схема. 10. Дзед. 11. Нырка. 12. Вядро. 13. Фокус. 15. Душанбэ. 16. Сюжэт. 18. Алюміній. 19. Бухгалтар. 23. Яблыкі.



## ГАРАСКОП 11-17 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН.** Памятайце старую прыкмету, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.

**ЦЯЛЕЦ.** Верце ў сябе, не губляйце ўпэўненасці. Успрымайце любыя абставіны як удачу. І тады гэтая ўдача не прымусіць сябе чакаць. Поспех літаральна зваліцца вам на галаву, прычым не толькі ў сферы кар'еры, але і ў шмат якіх іншых – без увагі не застанецца і ўласнае жыццё.

**БЛІЗНЯТЫ.** Добра ўсвядомце правіла трох Н – няма нічога немагчымага. І яшчэ: калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану.

**РАК.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца. У вас ёсць шанец атрымаць тое, што вы хочаце. І не трэба лавіць лёс за хвост, трэба дачакацца, каб ён сам павярнуўся да вас тварам.

**ЛЕЎ.** Усяму віной будзе ваша залішняя эмацыйнасць. Вы ўсё прымаеце блізка да сэрца. З-за гэтага можаце раздражняцца без прычыны на блізкіх вам людзей. Трымайце сітуацыю пад кантролем.

**ДЗЕВА.** Ваш добры настрой станоўча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З'явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.

**ШАЛІ.** Забудзьце пра злосць. Задавальненне ад яе праходзіць праз некалькі хвілін. А вось наступствы могуць цягнуцца доўга. Слухайце свае эмоцыі і, калі прыходзіць злосць, рабіце крок у супрацьлеглы бок.

**СКАРПІЁН.** Як часта вы весяліцеся? Жыццё кароткае, і трэба атрымліваць асалоду ад яго. І не трэба думаць, што падумаюць іншыя, калі вам добра.

**СТРАЛЕЦ.** Часцей успамінайце пра дабрыню. Невялікая яе порцыя можа тварыць цуды з навакольнымі людзьмі. І патрабуе ад вас малых намаганняў. А яшчэ жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.

**КАЗЯРОГ.** Перамены заўсёды да лепшага. Жыццё мяняецца, і не трэба гэтаму супраціўляцца. Не бойцеся змяненняў, плывіце ў патоку і ўспрымайце жыццё як прыгоды. Цяпер вам шмат часу прыйдзецца ўдзяліць папяровай валакіце. Пастарайцеся быць як мага больш уважлівымі, каб не згубіць якога-небудзь важнага дакумента.

**ВАДАЛЕЙ.** Штодзённа ў галаве праносяцца тысячы думак. Шмат якія з іх – негатыўныя, нават палохаюць. Не верце ім. Гэта толькі думкі, і яны не стануць рэальнасцю, калі вы ім не дапаможаце.

**РЫБЫ.** Вам самі нябёсы спрыяюць. Бярыцеся за сур'ёзныя справы, гэты перыяд знакавы для вас. Самі па сабе справы не робяцца, але і без выпадковага збегу акалічнасцяў яны рэдка бываюць паспяховымі. Ваш фінансавы стан наладзіцца, і вы атрымаеце новыя станоўчыя эмоцыі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 9 | | 4 | 5 | | | |
| 1 | | | | | | 8 | 2 | |
| | 2 | 6 | | | | | 5 | |
| 2 | | 7 | | | 3 | | | |
| 8 | | 1 | 5 | | | | | |
| | 9 | | 7 | 6 | | 1 | | |
| 4 | | | 6 | 3 | | | | |
| 9 | | 5 | | | | | 1 | |
| | | | 9 | | | 2 | 7 | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

● У чацвертым нумары чакайце наш традыцыйны Каляндар садовода-агародніка. Сёлета ён будзе з фірменным аранжавым колерам. Хочаце, каб ваша рэклама працавала ўвесь год? Тады звяртайцеся да нас па пытаннях размяшчэння на календары па нумарах (8-0176) 53-78-04, (8-029) 676-84-20, (8-029) 573-28-47.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Жонка скардзіцца мужу:

– Пазычыла сяброўцы тры тысячы рублёў на пластычную аперацыю. І як цяпер спаганяць? Нават не ведаю, як выглядае!

***

Сядзіць мужык і на паплавок глядзіць. Гадзіну сядзіць, другую. На трэцюю гадзіну заходзіць жонка:

– А каб цябе халера, ідзі ўжо на сваю рыбалку! Мне памыцца трэба.

***

– Каб захапіць унука музыкай, купіў яму чамадан. Але нічога не атрымалася.

– У мяне было тое самае, калі падарыў цешчы чамадан.

## 145 кніг – за год. У вілейскай бібліятэцы абралі лепшага чытача

ВІЛЕЙКА

У раённай бібліятэцы традыцыйна абралі лепшага чытача.

Гэты тытул атрымала пяцікласніца з гімназіі «Логас» **Мілана Шылко**.

У бібліятэчным фармуляры дзяўчынкі за мінулы год – 145 кніг.

Мілану і іншых актыўных чытачоў у бібліятэцы ўрачыста ўзнагародзілі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Педагогі атрымалі дыпломы Міністэрства адукацыі

СМАРГОНЬ

У рэспубліканскім конкурсе праграм і праектаў установ дадатковай адукацыі адзначыліся настаўнікі са Смаргоншчыны.

Дыплом першай ступені атрымала намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце Смаргонскага раённага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі **Святлана Балыш**.

Дыпломам трэцяй ступені ўзнагародзілі намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце з гэтай жа ўстановы **Таццяну Яроўскую**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Астраўцы першым дзіцем сёлета стаў хлопчык

АСТРАВЕЦ

У навагоднюю ноч у радзільным аддзяленні ЦРБ на свет з'явіўся яшчэ адзін астраўчанін – хлопчык. Такі падарунак сабе, мужу і дачцэ зрабіла **Вольга Грынцэвіч**.

Для **Славаміра** і Вольгі Грынцэвічаў гэта другі падарунак лёсу пад Новы год: дачка **Ева** з'явілася ў іх сям'і 30 снежня 2012 года.

– У гэты раз мы казалі, што было б выдатна, калі б наш сынок таксама нарадзіўся 30 снежня, – кажа Вольга.

Хлопчык, якога бацькі назвалі **Радзівонам**, вагой 3 510 і ростам 53 сантыметры, з'явіўся на свет 1 студзеня ў 05:25.

192 дзіцяці нарадзіліся ў Астравецкай цэнтральнай раённай бальніцы ў 2018 годзе.

**Паводле OSTROVETS.BY.**



## 12 студзеня, субота

**Вецер:** заходні, 5-6 м/с




Усход 9.27
Захад 17.14
Даўжыня дня 7.47

Усход 12.21
Захад –
Месяц расце

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -11,5°С у 2010 годзе
Максімальная тэмпература +6,1°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,4 мм у 2007 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці спрабавалі вы сябе ў якасці валанцёра?



**Настасся Ёкша, студэнтка 4 курса ЕГУ, Маладзечна:**

– У Літве. У 2017-м была валанцёрам у доме састарэлых. Аднагрупніца стварыла праект, у якім мы дапамагалі людзям. Адразу пагадзілася. Мы зладзілі майстар-клас па стварэнні свечак, святочную праграму. І стараліся пагаварыць з кожным.



**Алена Цаюн, студэнтка 4 курса БДАТУ, Валожын:**

– Была валанцёрам Чырвонага Крыжа ў Мінску. Мылі вокны бабулям, збіралі падарункі дзеткам са шматдзетных сямей. Перад 1 верасня – школьныя прыналежнасці. Сябры і бацькі падтрымлівалі. Але былі і тыя, хто не разумеў, навошта нешта рабіць, калі не плацяць.



**Аляксандр Груздь, мыйшчык аўтамабіляў, Маладзечна:**

– Раней у вёсцы на летніх канікулах пастаянна дапамагаў бабулям, якія ўжо засталіся адны. Прыносіў ваду, сек дровы, і па дробязях. А яшчэ даўным-даўно з мамай аддавалі цацкі ў дзіцячыя дамы. Наконт валанцёра, былі думкі ім стаць.



**Настасся Кулёнак, студэнтка, Маладзечна:**

– Дапамагала састарэлым людзям перайсці дарогу, падносіла сумкі, хадзіла ў краму па прадукты. Матывавала тое, што яны адчувалі сябе некаму патрэбнымі. І адчуванне, што ты робіш гэты свет хоць на кропельку лепшым. Яшчэ падкормлівала бяздомных жывёл. Прыбірала на вуліцы.



**Аляксандр Драбышэўскі, займаецца рамонтам, Маладзечна:**

– Калі ёсць магчымасць – дапамагаю. З апошняга, хадзіў па «Модулі», убачыў кошку, якую падкормлівалі прадаўцы, але выкідвала на вуліцу ахова. Узяў у машыну, аб'ездзіў знаёмых. Мама сябра дапамагла знайсці прытулак. Цяпер кошка нарадзіла, жыве ў цяпле.



**Любоў Рынкевіч, педагог-арганізатар гімназіі №1, Валожын:**

– І не раз. Удзельнічаем у дабрачынных акцыях. Традыцыйныя: «Ветэран жыве побач» – аказваем дапамогу ветэранам. «Абеліск» – наводзім парадак ля помніка Журботнай Маці. Штогод прымаем удзел у рэспубліканскай акцыі «Цуды на Калядны».



**Аліна Аскірка, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Спрабавала, дапамагала бадзяжным сабакам і кошкам у Маладзечне і за межамі горада. Падштурхнула тое, што вельмі люблю жывёл, каб была магчымасць, адкрыла б прытулак для бяздомных. Таксама насіла цацкі ў дзіцячы дом.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№2 (1237) 11.01.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 51. Падпісана ў друк у 9.00 10.01.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.